Рыгораўна – жанчына непаседлівая, працавітая. Лёгкага хлеба не шукала ніколі. І сена мокрае з балота цягала на сабе, і буракоў менш, як у людзей, не было. Яшчэ й муж, калгасны брыгадзір, намерае, бывала, самую зарослую дзялянку. Гэта каб іншыя менш языкамі малолі. Між тым вясковы стараста не разумее людзей, што вар'яцеюць ад працы. "Глядзіш, – неяк пры мне абуралася цётка Ліза, – на якую вясковую кабету – у гадах ужо, спіна крукам, – а пераарэ трактар на зіму бульбянішча – насуне старая хустку на самыя вочы – і на поле, ледзь не бегма. Дармовае ж. Ужо і гаварыць сілы няма, так шчыруе. Не, каб вады нагрэць з раніцы, прывесці сябе да ладу... Урэшце, да царквы схадзіць лішні раз... То ж не... Свету белага не бачыць за працаю..."

Мы ўвайшлі ў хату, звычайную вясковую хату з фотакарткамі ў рамках на сценах, вазонамі на падаконніках, горкаю вышытых падушак на драўляным ложку... Толькі столь крыху вышэйшая, чым звычайна бывае ў сялянскіх хатах, гаспадары якіх дбаюць найперш пра цяпло. У пакоі прыемна пахла варонаю маладою бульбаю і кропам. Пасярэдзіне моднага некалі круглага стала стаяла бутэлька дамашняй гарэлкі і побач з ёю – другая, чырвонага віна.

– Знаю, Алесь, што ты сваёй не цураешся, – цётка Ліза кіўнула ў бок стала, – а як сказаў, што з табою маладзічка будзе, – збегаю, падумала, у магазін. Раптам зганьбуе новы чалавек наша пітво... Сядайце, сядайце, не саромейцеся.

Я прысеў да стала. Рыгораўна прыабняла за плечы Вольгу, якая спрабавала было адмаўляцца, і пасадзіла побач. Гаспадыня адразу ж узяла з яе рук таўсматы журналісцкі блакнот і паклала на падаконнік: – Няхай ляжыць сабе цішком, а вы паспрабуйце спачатку, што тут у цёткі Лізы атрымалася.

– Мне нельга... – нерашуча запратэставала Вольга. – Мне яшчэ працаваць сёння.

– Я лічу, што адно другому не перашкодзіць. Яно калі ў добрай кампаніі, ды ўмеру... – Гаспадыня ўжо налівала чаркі. – Не падумайце ліхога... Я сама не пераношу п'яніц... Ну то давайце... На добрае здароўечка. Як некалі казаў моў свёкар, няхай яму на тым свеце добра будзе, прахіліся, сэрданька, а то аблію. – Гаспадыня паставіла на стол пустую чарку, прасачыла, каб дапілі госці.

– У вас, Рыгораўна, пэўна, нямала людзей перабывала, – пастараўся я адразу "зачапіць" тэму будучага нарыса.

– Было ўсякіх... Мой жа брыгадзірам працаваў трыццаць гадкоў. І калгаснае начальства, і раённае... Па справах, а то больш з палявання заязджалі. Неяк з усімі ў мяне агульная мова

знаходзілася... Але што ж гэта я ўсё пра сябе ды пра сябе! Каму гэта цікава! – успахапілася цётка Ліза. – Вы мяне зусім загаварылі. Закусвайце, не саромцеся, ды расказвайце, што там у горадзе робіцца...

Не раз заўважаў, што ў прысутнасці вясковага чалавека няўдзячная справа хваліць гарадское жыццё. Якім дзіваком ты, гараджанін у першым пакаленні, будзеш выглядаць у вачах аднавяскоўцаў, калі табе “фанта” ці “доктарская” смачнейшыя за малако “ад рабой каровы” ці “крывую” дамашнюю каўбасу.

– Ат, цётка Ліза, нічога добрага няма ў тым горадзе. Усе некуды бягуць, таўкуцца. Смурод ад машын ды асфальту гарачага. Але ж чалавек прывыкае, і здаецца яму, што так і трэба.

– Ніколі не зайздросціла я гарадскім, – падхапіла Рыгораўна. – Адгародзіцца чалавек чатырма сценамі, зачыніцца на ключ сярод белага дня, каб ніхто не ўкраў, і глядзіць у гэтую скрыню, – жанчына кіўнула ў куток, дзе стаяў старога выпуску “Гарызонт”. Псуе чалавека гарадское жыццё. Толькі і чуеш, што на рынку ўсё дарага, што кватэры дарагія... То ўцякай, кажу катораму, пакуль хата бацькава жывая. Смяецца... Маўляў, ці пры сваім ты розуме, цётка?.. Мая свашка, з-пад Пінска сама, нядаўна малодшую дачку з зяцем выпраўляла. Да паўдня гарадскія госці ў лазні праседзелі, паўкіло мёду ўпустую перавялі, націраліся. Мыла ім ужо, бачыце, не хапае. Аздараўляюцца ўсё. За сталом: гэта мне шкодна, гэтага я не ем... А як другую бутэльку адкаркавалі – толькі паспявай, старая, наразаць кумпякі ды каўбасы. Панапіхаліся (даруйце за слова), сядзяць за сталом, што тыя рапухі. Рукой не паварушаць. Хоць бы ўжо песню заспявалі якую. Ці не ўмеюць, ці лянуюцца. На гадзіннікі пазіраюць ды пазяхаюць то разам, то па чарзе. А свашка мая ўсё мітусіцца: у склеп, у камору, а то з сякераю з хаты бяжыць. У двары, чую, птушыны вэрхал падняўся. Праз хвіліну, лоб мокры, улятае з торбаю. Гуска, без галавы ўжо, у торбе трапечацца. Прарвала дзірку і нагой у дзірцы тузае. Кроў на падлогу з мяшка цурчыць. У гаспадыні на лбе свежая кроў размазана... Паглядзела я на ўсё гэта, паглядзела... Пабойцеся Бога, людзі. Навучыцеся сябе, сваю старасць шанаваць. Чым ты, пытаюся, Надзейка, будзеш дзеда свайго карміць. Яны ж, маладыя, не без грошай, пры пасадах кожнае, на рынку свежага сабе заўсёды прыкупяць. Дзеці дзецьмі (не крыўдуйце на мяне), але старым трэба найперш глядзець адно аднаго. Я, бывала, у горадзе – яшчэ мой Якаў жывы быў – кажу дзяўчаткам-прадаўшчыцам: “Парайце, мілыя, чаго свежага майму дзеду завезці. Што ў вас смачнейшае ёсць?.. Быў бы жывы мой Якаў!.. – Цётка Ліза ўздыхнула.

– Каб хоць які, хоць нямоглы... Каб хоць з кіёчкам выйшаў з хаты ды падказаў мне, дзе лепш ямку пад бульбу капаць, дзе якую градку пасадзіць... Даканала, беднага, калгасная праца. Адно што ўнукаў дачакаўся...

Вядома ж, я добра ведаў Якава Аляксеевіча, калгаснага брыгадзіра, не абы-якога гаспадарніка. Нас, дванаццаці-чатырнаццацігадовых падшыванцаў, ён мог так, як у нас казалі, "выгнаць" на працу, такія словы знайсці, што кожны адчуваў сябе чалавекам дарослым. Верылі: без нас абысціся ну ніяк нельга. Уся работа стане. Працавалі і на таку, і на сіласных ямах. А як пасля прыемна было атрымліваць у калгаснай касе пацёртыя рублі, "свае" грошы. У мяне яны па некалькі месяцаў распраўляліся ў запаветнай запісной кніжцы са старанна перапісанымі слупкамі ўласных вершаў.

Дзядзька Якаў нярэдка заязджаў вечарам пасля працы да маіх бацькоў, доўга заседжваўся з імі на кухні. Ён быў добрым апавядальнікам, іншым разам любіў і пачудзіць. Пачынае расказваць нібы сур'ёзна. "Заблудзіўся, значыць, я ў лесе. Адстаў ад паляўнічых. Бачу, зграя ваўчыная аблягае. Галодныя звяры ўсе, ікластыя, адно вочы гарацьу цемры. Націскаю на курок – асечка. Яшчэ раз – тое самае..." Калі ў мяне – праз прыадчыненыя дзверы на кухню было ўсё добра чуваць – па спіне прабягалі дрыжыкі, "страшнае" апавяданне заканчвалася нечаканай развязкаю: "Тут адзін з ваўкоў – мацёры, памерам з добрае цяля, шчэць на загрыўку дыбам – падбягае да мяне і гаворыць..." Бацькі пераглядваліся, маці першая не вытрымлівала і пырскала смехам. Сам апавядальнік таксама смяяўся ад душы... "А паверылі?.. Ха-ха-ха! Па вачах бачыў, што паверылі..."

Не аднойчы наведваў я Аляксеевіча спачатку ў хірургічным аддзяленні абласной бальніцы, пасля – у анкалогіі...

– Хай мілуе Гасподзь на старасці гадоў аднаму застацца. Калі ўсё жыццё разам. Калі толькі з ім усё было ў першы раз... – Цётка Ліза памаўчала. – Яно, здараецца, і ў гадах людзі сходзяцца, жывуць. Але гэта не тое. Яна сваім дзецям ці ўнукам глядзіць што даць, ён сваім. У кожнага шафа з дабром, кожны на дзень па два разы правярае, ці на месцы ўсё...

– Шкада, цётка Ліза, паспачуваў я. – І цяпер перад вачыма, як падняўся ён з ложка, праводзіць да дзвярэй. Кажа, пабачуся з Рыгораўнай, то абавязкова скажу, што ты праведваў, што памятаюць землякі.

– Не забыўся. Гаварыў...– Рыгораўна прытуліла ражок хусткі да вачэй. – А праз два тыдні мне аддалі яго назусім: "Павінны разумець.

Паспрабуйце лячыць народнымі сродкамі...” Я на той час сама ледзьве на белым свеце трымалася. А як чалавек мой злёг – зусім знемаглася. Астма жыцця не давала. Чаго я толькі не рабіла, якіх не піла адвараў! Нічога не дапамагала. Бывала, вазьмуся за венік, каб у хаце прыбрацца, – а сілы няма. Сяду і плачу. Якаў падзаве мяне, супакоіць, за руку патрымае. А самому, беднаму, з кожным днём усё горш. Дазволь, прашу, бацюшку пазаву, хай паспавядае нас. Якаў у мяне парційны, ніколі не бачыла, каб перахрысціўся. А тут згадзіўся. Я зразумела: гэта ўсё... – Рыгораўна выцерла слязіну. – Сорамна прызнацца старонняму чалавеку, – жанчына нібы прасіла прабачэння ў Вольгі, – але хочацца зняць цяжар. Што я тады ўздумала... Нікому не расказвала, бо і грэх яно... А вам раскажу. Вы людзі адукаваныя, зразумееце... То слухайце, чыстую праўду кажу...

Бацюшка павінен быў прыехаць на другі дзень з самай раніцы. А я... дачакалася, пакуль добра сцямнее, каб не бачыў ніхто... І праз плот, вакол агарода... пабегла. Хадзіць магла з кійком толькі, але высільваюся, з апошніх сіл бягу. Тры крокі, яшчэ тры... Рашыла для сябе: упаду, мёртвая, то і пахаваюць у адзін дзень з Якавам. Калі яго не стане, навошта нямоглай на белым свеце жыць?! Які сэнс?.. У грудзях агнём пячэ, у вачах цёмна... Падаю, ілбом зямлю рыю, пакуль на ногі падымуся, устаю – і зноў бягу. Не памятаю, колькі часу так. Урэшце ўпала без сіл. Ледзьве дапаўзла да вугла, галавою да сцяны прытулілася, чакаю: вось-вось у грудзях абарвецца – і аджыла сваё. Тут мяне людзі і знойдуць раніцай...

Не часта чалавек адкрывае душу другому чалавеку. Хіба што на споведзі. Але то споведзь-пакаянне. А гэта была споведзь-прызнанне. Прызнанне старонні́м людзям у светлых пачуццях да чалавека, якога ўжо няма, якому, магчыма, пры жыцці так і не паспела сказаць запаветныя словы...

Ціха зрабілася ў пакоі. Я глядзеў на цётку Лізу і бачыў адно яе сумныя вочы, якімі прамаўляла душа.

– Напэўна, вы моцна кахалі Якава Аляксеевіча? – Я адчуў, як дрыжыць голас у Вольгі. І дзіўная справа... Мне здалося ў гэты момант, што абедзьве жанчыны зрабіліся падобнымі адна на другую. Не тварам. Галасам і позіркам, яшчэ нечым невыказным. Дзве розныя і дзве вельмі падобныя жанчыны сядзелі са мною побач. Я адчуваў, што словы Рыгораўны, якія і мне адкрылі ў чалавечай сутнасці нешта да гэтага непазнанае, незразумелае, працялі наскрозь уражлівую жаночую душу вольгі...

– Дачушка мая, мы і слоў такіх не ведалі. Гэта толькі ў фільмах паказваюць. Я і сама люблю індыйскія. А ў нас якое там каханне

можа быць. Неяк так... Слова яму раніцай на ад'езд добрае скажаш. Ён – не глядзі што мужчына – у гаспадарцы дапаможа, хустку калі прывязе новую з раёна. Я звару яму чаго смачнейшага... Але ж я вам не даказала ўсяго…

Праляжала я гэтак гадзіну ці болей, аддыхалася неяк і да лаўкі ў сенцах, па сцяне рукамі перабіраючы, дабралася. Пэўна, не прыйшоў яшчэ час памерці. Якаў жа мой... Бацюшкі дачакаўся, развітаўся са мною... Засталася я ў хаце адна. І не паверыце, людзі, папраўляцца пачала. Што ні дзень – адыходзіць мая хвароба. Праз паўгода на задышку зусім забылася. Не абышлося, вядома, без крыўднага слова. Яшчэ б... Мужа пахавала – а сама нявесціцца. Раней кроку па хаце не магла ступіць, а цяпер у клуб на рэпетыцыі бегае, у “Вячорках” яе па тэлебачанні паказваюць. А я знаю адно: забраў Якаў маю хваробу. У магілу з сабою забраў... А што людзі гавораць?.. Людзям трэба пра нешта гаварыць. На мой жаночы розум: калі толькі бяда адышла – прыбярыся. Вось я і стараюся не апускаць рук. А то ж і такое бывае: як стаяла баба на агародзе з капачкаю, так і ў магазін чохае. Няма ў яе часу чобаты з ног сцягнуць. Скажу ў вочы – пакрыўдзіцца, але другім разам падумае. Ведаеце, як мяне на сяле клічуць? Іванавіч ведае... Ахмістрыня. Так за Польшаю называлі гаспадыню, якая вяла гаспадарку ў багатых дамах. Расказвалі старыя людзі, абы-каго не бралі. Трэба і распарадзіцца, і на людзях умець паказацца. Не крыўджуся на Ахмістрыню. Даў Бог мне гэта – пераканаць чалавека, ад улады нечага для яго дабіцца... У сельскім савеце мяне пабойваюцца нават. Думаю, што я і з міністрам магла б пагаварыць. Трымайся з чыноўнікам як з чалавекам, забудзься пра яго пасаду – і нікуды ён не дзенецца, выслухае, дапаможа. І ў яго ёсць маці, сям’я. Не толькі пасада... Ой, я зноў пра сваё, – схамянулася раптам Рыгораўна. – Стаміла вас сваімі байкамі.

– То мы ж, Лізавета Рыгораўна, за тым і прыехалі, – пацягнулася да блакнота Вольга. – Я хацела б у вас падрабязней распытаць пра вёску, пра людзей.

– Давайце вось што зробім, – распарадзілася цётка Ліза... – Аляксандра Іванавіча адпусцім, хай да рэчкі пройдзе, на ваду паглядзіць. А то я раптам загаваруся, прысачыню нешта, а ён падловіць адразу... То пытайцеся, што хацелі. Не ўключайце толькі гэтага мікрафона, ці як яго там. Бо ў мяне голас прападае зараз жа ці пачынаю гаварыць як па пісанаму. А каму гэта цікава?..

* * *

Я прайшоў берагам ракі да мастка праз міліярацыйны роў, пасядзеў на месцы, дзе некалі добра клявалі паласатыя акунькі, на гадзіну вярнуўся ў шчаслівую пару дзяцінства. Па мосце пратарахцела падвода з незнаёмым мне пажылым мужчынам. Я павітаўся па добрай вясковай завядзёнцы. “Здароў быў!” – адказаў яздок, павярнуўшыся ў мой бок. Не пазнаў, як і я яго. А яшчэ гадоў з дзесяць назад дзед у возе, хутчэй за ўсё, не вытрымаў бы, прыпыніў каня: “А чыіх жа ты будзеш, сынку? Ніяк не прыгадаю”. Я назваўся б па вясковай мянушцы, пачуў бы добрае слова пра дзеда ці бацьку. Мы пажадалі б адзін другому заставацца здаровымі. Тое было зусім, здаецца, нядаўна... Праехаўшы колькі метраў, мужчына яшчэ раз павярнуў галаву ў мой бок. Так і не адважыўся “зачапіць” дзівака, што ў будзень у светлай сарочцы пад гальштукам сядзіць на рэчцы.

* * *

Я звыкла націснуў клямку і ціха адчыніў дзверы ў хату. Заўважыў, як адразу перапынілася размова ў жанчын. Ці не пра маю светласць ішла гаворка?..

Акурат у гэты час вярнулася машына, і мы сабраліся ў зваротны шлях. Перад тым, каб не пакрыўдзіць гаспадыню, мы з Вольгаю проста з яблыні рвалі сакавітыя малінаўкі, клалі іх у важкі пакет. (“Пачастуеце вашу рэдакцыю!”) Было нязвыкла і прыемна бачыць Вольгу тут, у гэтым старым садзе на маёй радзіме, рваць з ёю яблыкі, сустракацца позіркам, падглядваць (грэшны чалавек), як прыпадымаецца лёгкая летняя сукенка, калі жанчына цягнецца на дыбачках да сакавітага плода. І шчокі ў Вольгі ружавеліся, што тыя малінаўкі...

Я нёс да машыны пакет з яблыкамі, у Вользіных руках быў букет кветак...

– Ёсць у мяне просьба, – Рыгораўна звярталася да ўсіх. Вельмі хочацца яшчэ раз паглядзець па тэлевізары нашы “Вячоркі”. Я сваіх артыстак склічу. Паўспамінаем, душу пагрэем... Колькі людзей дзякавала некалі нам за песні!.. Вяселляў у вёсках цяпер не гуляюць... і песень не пяюць.

Мы паабяцалі перадаць просьбу на тэлебачанне, запісалі дату перадачы. Калі шафёр ужо завёў рухавік і зачыніліся дзверцы машыны, Рыгораўна не вытрымала, пастукала ў шкло з майго боку, знакам папрасіла выйсці.

– Ты ж глядзі, – падміргнула таямніча, – не прапусці жанчыну. Даўно ўжо пара ажаніцца. Малайчына яна. Хоць і гарадская, а з

толкам. Я ніколі не памыляюся ў людзях... І воку ёсць за што зачапіцца. То не лаві, дзядзька, варон...

* * *

Шафёр не спяшаўся. Мы з Вольгай сядзелі на заднім сядзенні рэдакцыйнай легкавушкі. Пахла астрамі і спелымі яблыкамі. Я глядзеў на старыя прыдарожныя вербы, думаў пра тое, колькі светлых, мудрых пражытым людзей жыве ў нашых сірацеючых вёсках.

– Іванавіч, няўжо вы і напраўду ў дзяцінстве былі крыкуном? Гледзячы на вас, ніколі не сказала б. – У вачах Вольгі я ўпершыню заўважыў гарэзлівыя іскрынкі.

– Яшчэ якім!.. Ці не расказвала Рыгораўна: і ў комін мяне саджалі, каб крыкі ішлі на сухі лес, і на крыжовыя дарогі ваду з начовак пасля купання вылівалі. Нямала намучыліся... А што вам, Вольга Міхайлаўна, яшчэ гаварыла цётка Ліза?

– Падазраю, прыкладна тое ж, што і вам, Аляксандр Іванавіч, калі вы з ёю пераміргваліся на развітанне.

Мы засмяяліся, гледзячы адно другому ў вочы. Упершыню мы з Вольгай сядзелі блізка. Было прыемна адчуваць яе гарачае плячо... Заплюшчыўшы вочы, я нечакана ўявіў Вольгу на месцы Рыгораўны... Гэта яна, не цётка Ліза, бяжыць паўз агароджу, бо са смерцю дарагога чалавека жыццё губляе ўсякі сэнс...

Я ўзяў Вольгу за руку. Пад мернае гудзенне рухавіка шчасліва мроілася пра будучае. Хацелася нечага вялікага, светлага і сапраўднага. Як бы гэта не называлася. І надоўга. Да канца жыцця.

# НАРА

На вяселлі сваёй стрыечнай сястры жонка не адыходзіла ад нейкай далёкай родзічкі, з якой не бачыліся, па словах маёй суджанай, цэлае жыццё. Была маладая жанчына вышэй сярэдняга росту, з круглым тварам, са сцягнутымі на патыліцы гумкай валасамі няпэўнага колеру. Бледная з твару, нейкая ленаватая ў рухах, абыякавая да намаганняў увішнага тамады разагрэць кампанію. Галіна (так яе звалі) рабіла ўражанне чалавека, які адбывае вяселле, а не гуляе на ім. Яны з жонкай хутка знайшлі агульную мову. Мая Таццяна скардзілася родзічцы на безграшоўе, на гаспадыню нашай кватэры... Само сабою – варта было адысці на крок – даставалася і маёй светласці. Не ўпэўнены, што кожнай жанчыне падабаецца, калі іншая чыхвосціць пры ёй уласнага мужа, – Галіне, бачыў, падабалася. І гэта адразу настройвала супраць абедзвюх. А непаразуменняў, трэба сказаць, у нашай сям'і хапала. Найперш праз тое, што чарга на жыллё рухалася марудна, а мая журналісцкая зарплата не задавальняла ні жонку, ні яе клапатлівую радню. “Рукі не з таго месца растуць...” – каронная фраза вечна чымсьці незадаволенай жонкі – выводзіла з раўнавагі, доўга не давала супакоіцца. Яшчэ добра, што і Галіна з мужам кватэры не мелі, але ж Генік – тут не абышлося без звыклага “не табе раўня!” – “выбіў” пакой у інтэрнаце для сямейных.

– У суботу, – папярэдзіла Таццяна, – нас запрасілі ў госці. – Паглядзіш хоць, як людзі жывуць.

У госці дык у госці. Уласна кажучы, чаму б і не пайсці, раз запрашаюць. Тым больш што я і сам даўно хацеў пабачыць, як жывуць людзі ў тых хрушчоўках, якімі застаўлены цэлы раён уздоўж вуліцы імя генералісімуса Суворава. Падобнае гасцяванне добрае яшчэ і тым, што ні да чога не абавязвае: самому не трэба ні аб чым прасіць, і гаспадары не маюць ніякіх карыслівых намераў. А знаёмства з новымі людзьмі, калі нават яно не перарастае ў сяброўства, – гэта заўсёды свежыя ўражанні, матэрыял для разваг...

Быў пачатак красавіка, снег амаль усюды растаў, на прыгрэве ўжо дзюбіліся з зямлі раннія мнагалетнія расліны. Ля будыка інтэрната для маласямейных за апошнія суткі-двое знікла з вачэй ці не апошняя убітая за зіму, пачарнелая снежная гурбіна. Цыгарэтныя “бычкі” -недапалкі, што да гэтага былі схаваны пад снегам, цяпер аказаліся на мокрай зямлі. Яны паўтаралі абрысы гурбы, ляжалі ў беспарадку, пачарнелыя, набухлыя, тоўстыя як палены. Чакалі сцёртага дзеркача, які змяце іх у ржавыя кантэйнеры для смецця.

Мы прайшлі міма вахты і на рыпучым ліфце падняліся на патрэбны паверх. Тут, у кабінцы з падслепаватай лямпай дзённага святла, мне чамусьці прыйшло ў галаву, што чалавецтва вынайшла ліфт занадта рана, “навырост”, бо яшчэ да гэтага часу не навучылася ім карыстацца, – усё, што можна былоададраць, выкруціць, зламаць, было ададрана, выкручана, зламана і спалена. Адчуваўся ўстойлівы, даўкі пах гарэлага пластыку. Знізу і зверху нешта скрыгатала, рыпела, падлога ўвесь час торгалася. Ці варта апісваць пашарпаныя дзверы ў агульны для некалькіх кватэр пярэдні пакой, таксама агульную кухню з пахам прыгарэлай яечні і прагорклага кефіру?..

Жанчыны засакаталі, абняліся. Я уладкаваў сваё і жончына паліто на скрыні ля ўваходу. У пакоі таксама трымаўся цяжкі, застарэлы дух. І немагчыма было раскласці яго на асобныя пахі. Нешта напамінала “водар”, што ішоў ад гнілой падлогі цяперашняй нашай з жонкай кватэры, калі я ў чарговы раз мянаў гнілыя маснічыны. Адчувалася і яшчэ нешта незнаёмае, непрыемнае, ад чаго хацелася як найхутчэй вызваліцца.

Цяпер быў час агледзецца, пакуль гаспадыня разбіралася з духоўкаю на кухні, а гаспадар бегаў у магазін. “Можна было і раней паклапаціцца”, – кінуў я ў бок жонкі. – А то госць на парог, а гаспадар з хаты”. – “Паспееш яшчэ наклюкацца”, – не падтрымала Таццяна. – Вялікі пан знайшоўся”.

Пакой рабіў уражанне паўсклепа, хоць і знаходзіўся на пятым паверсе. Даводзілася ў жыцці пабачыць – нават і пажыць – цесныя студэнцкія “пеналы”, “сляпыя” – без акон, у восем метраў катушкі для маладых сем’яў у тым жа студэнцкім інтэрнаце, ды ці мала яшчэ чаго. А гэта быў пакой-нара. Тры чвэрці плошчы, а мажа і больш, займалі нераспакаваныя груваcткія скрыні з мэбляй. Навошта збіраць “сценкі” і “горкі” – імкнуўся я зразумець логіку гаспадароў, – калі ўсё часова, калі ўсё адно давядзецца раскручваць, губляць час. Які сэнс здымаць коўдру пылу на скрынях, калі ён ізноў сядзе?.. Толькі пераганяць з месца на месца. Зрэшты, стаялі тут і дзве старамодныя шафы, якімі карысталіся, дарэшты дабітыя – не будзе шкада пакідаць, калі дадуць новую кватэру. На той, што ніжэй, – каляровы тэлевізар. Гэта была ці не адзіная рэч, з якой выціраўся пыл. На самым краі тэлевізара сядзеў і няспешна варушыў доўгімі вусамі рыжы прусак – разглядаў новых людзей або цешыўся прадчуваннем смаку смажанага мяса.

Недзе ў глыбіні пакоя прасвечвалася акно, але да яго, каб адчыніць фортачку і ўпусціць свежага паветра, можна было дабрацца хіба што паўзком па скрынях. Навошта кожны раз адклейваць і

заклейваць, ды і мэбля не любіць перападаў вільготнасці, – шукаў я логіку.

Але ж гэты невыносны пах: лаку, пылу, кухні. А яшчэ пасцелі. Два прыкрытыя выцертымі рудымі капамі ложкі стаялі чамусьці асобна. Здзіўляла і тое, што ў пакоі зусім не было хоць якога стала, бо як жа людзі снедаюць і вячэраюць, а яшчэ ж і гасцей запрашаюць?

Праз некаторы час на парозе з'явіўся гаспадар. Гэта быў малады, сярэдняга росту мужчына з доўгімі, як у музыканта, пафарбаванымі у нейкі іржавы колер валасамі, надзвычай худы, вузкагруды, сутулаваты, з наколкамі на пальцах і перадплеччы. На смуглаватым твары выпіралі скулы, шчацінілася барада, няпэўнай формы і колеру. Апрануты ён быў у патрапаныя джынсы і выгаралую, як кажуць, на ўсе выпадкі жыцця майку.

Я злавіў сябе на думцы, што ніколі не бачыў Галіну і яе мужа на вуліцы разам. Чалавек, пэўна, добра разумеў, як нявыйгрышна будзе выглядаць побач з высокай, у маладым целе жанчынай.

– Генік, – назваўся гаспадар, падаючы руку. Я ледзьве не ўскрыкнуў, настолькі моцна – а галоўнае, нечакана – сціснуў ён маю далонь. Генік адразу прыняўся за звыклую, як можна было здагадацца, для яго работу. Адным рухам ён ухапіў і паставіў на сярэдзіну пакоя дзве табурэткі, кінуў на кожную заношаныя, тлустыя анучы. Зверху паклаў “сталешніцу” – разбухлы і перакрыўлены ліст ДВП. Аднак канструкцыя ўсё ж “іграла”, і Генік некалькі разоў здымаў ліст, доўгімі худымі пальцамі мусоліў анучы, то распраўляючы іх, а то збіваючы комам. Нарэшце застаўся задаволены, прыцмокнуў языком. “Стол” ён заслаў выцертай да палатнянай асновы цыратай. Крэслаў аказалася толькі два, для гасцей, астатнія замяніла падсунутая скрыня. Я адчуў, як павολі знікае апетыт. “Чорт бы цябе ўзяў, не мог раней усё зладаваць, абавязкова трэба перад носам з анучамі вазіцца, – абурыўся ў думках, хоць і не лічыў сябе гідлівым. – Так можна і галодным застацца”. А тут яшчэ Генік, нібы спецыяльна:

– Рукі паадбіваць!.. За што толькі грошы плацяць адміністратарам у нашым гастраноме. Мышы па нагах бегаюць. Ледзь выбраў пачак рысу непагрызены. Што ні вазьму – сыплецца, але ж не ў супермаркет ісці… Ну то давайце ўжо вып'ем, раз намерыліся.

Не чакаючы, пакуль усядуцца, Генік набулькаў у аб'ёмістыя шклянкі гарэлкі і са смакам перакуліў першы, выставіўшы худы кадык.

– Так і жывём, – шумна выдыхнуў павесялелы, задаволены ці смакам выпітага, ці тым, што нікога не прыйшлося ўгаворваць. Адразу ж наліў па другой.

– Мы дамаседы, нікуды не ходзім, – уступіла ў размову Галіна. – Ён да свайго ложна табурэтку прыставіць з ціскамі і напільнікамі, я на сваім падабʼю пад галаву падушку і дэтэктывы чытаю. Так і жывём, – паўтарыла мужава.

Жанчыны хутка знайшлі тэму для размовы – абедзьве знаходзіліся пад уражаннем ад моднай на той час “Марыяны”. Генік “завіс” на нейкай сваёй думцы, а я ўсё намагаўся здагадацца, кім мог быць гэты чалавек. На вялікага інтэлектуала не цягне, бачна з парога. З рабочых?.. Таксама наўрад ці. Тыя, ажаніўшыся, ачалавечыўшыся, не фарбуюць патлы, не запускаюць бараду. І яшчэ падумалася: не наш ён, не з паляшуцкага краю. Пасмеў бы толькі паказацца ў такім выглядзе на людзях.

Застолле працягвалася. Паступова забыліся анучы, перасталі раздражняць запыленыя скрыні з мэбляй. У Галіны разгарнуліся плечы, прыемна заружавеліся шчокі, на якіх абазначаліся сімпатычныя ямачкі. “І трапіла ж гэтаму глісту такое багацце – падумалася пасля чарговай, выпітай па маёй прапанове за гаспадыню чаркі. – Як той мангольскі хан (скуласты Генік нечым і напамінаў нашчадкаў Тахтамыша), заграбастаў прыгожую жанчыну і трымае. І застрашыў, можна здагадацца. Так і ёсць... Свежы сіняк адзін і другі раз выбіўся з-пад шлейкі летняй сукенкі. А слова скажа – адразу на мужа косіцца: ці не прагневала чым”.

Неўзабаве высветлілася і Генікава спецыяльнасць. Галіна атэставала мужа як умельца на ўсе рукі, які змог бы і верталёт зрабіць, і падводную лодку, была б такая магчымасць. “Шкада, не магу ўгаварыць далей вучыцца”, – пажалілася яна і тут жа пашкадавала. – “Кату пад хвост тваю навуку! – загарэўся Генік. – У нас майстар мае дзве адукацыі, а запытайся пра што – дуб. Чарцёж не можа прачытаць”.

Пасля першага застольнага раунда мы з Генікам выйшлі перакурыць на агульную кухню. Зрабіўшы некалькі зацяжак, ён дастаў з шуфляды шпульку з шаўковымі ніткамі.

– Парваць зможаш? – бліснуў вачыма Генік, расціраючы касцістыя пальцы.

– Не ведаю, – адказаў я няўпэўнена.

Рваць шнуры не было ніякага жадання. Але што зробіш. Госць, як кажуць, нявольнік. Атрымлівалася нешта накшталт цяперашняй “Званай вячэры”: хочаш не хочаш – забаўляйся. Было зразумела, што Генікам кіравала звычайнае імкненне вылучыцца, паказаць перад нейкім там інтэлігентам свой спрыт. Я не парваў і дзве столкі, моцна

парэзаўся. Генік адолеў спачатку шэсць, а пасля і ўсе восем, неяк па-асабліваму намотваючы ніткі на свае доўгія, худыя пальцы.

– Неверагодна! – зрабіў я камплімент.

– Яшчэ ніхто не паўтарыў, – задаволена заўважыў Генік і ўсміхнуўся аднымі вуснамі. – Галоўнае тут – рывок. Рэзка, вельмі рэзка. Глядзі...

Мы зноў вярнуліся да стала. Жанчыны сядзелі, закінуўшы галовы, і ўглядаліся ў люстру. Таццяна войкала, і не выключалася, што вечарам будзе ў які раз напомнена, з якога месца ў сапраўднага гаспадара не павінны расці рукі.

– Бяры прыклад, павучыся, – не хавала захаплення жонка. – А то да чаго ні даткніся – усё валіцца, усё наперакасяк.

– Надзейна, роўна павешана, – згадзіўся я, добра разумеючы, што не гэта маецца на ўвазе.

– Дурань ці прыкідваешся?.. Генадзь сам зрабіў люстру, сваімі рукамі. Разумееш ты, сам! Ніводнай капейкі не патраціў. І якую люстру!

– Здагадайся, з чаго? – ажно свяціўся вынаходнік.

– Адразу і не скажаш. Нейкія трубачкі.

– Правільна, трубачкі з прылад для пералівання крыві. Мая ў бальніцы працуе. Даў загад – нацягала.

– Нядрэнна, можа быць... – не падзяліў я жончынага захаплення. Люстра і напраўду асабліва не ўражвала, але на той час і такія купіць было цяжка.

Жонка глянула коса.

– Гэта пакуль што пробны варыянт, – паспяшаўся растлумачыць Генік. – Тут яна і застанецца. Для новай кватэры я задумаў іншую.

Генік з захапленнем пачаў маляваць тупым канцом відэльца на цыраце праект трохузроўневай люстры, якая будзе сама запальвацца, калі адчыняць дзверы ў пакой. Паводле праекту, накал павінен рэгулявацца аўтаматычна, у залежнасці ад асвятлення.

– Ды што люстра!.. – гаспадар ажыўляўся ўсё больш. – Усе дзверы ў мяне будуць адчыняцца аўтаматычна, шафы і крэслы я буду перасоўваць адным пальцам...

Праз некаторы час агульная, “сямейная”, гарэлка была дапіта, і Генік, пакорпаўшыся ў адной з незлічоных скрынь, дастаў “сваю”, асабістую, аб чым і папярэдзіў жонку, не звяртаючы аніякай ўвагі на гасцей...

Галіна, можна было заўважыць, адчувала сябе трохі няёмка, але зрабіла выгляд, што нічога не здарылася.

– Трэба, каб свая бутэлька ў мужчыны заўсёды была, я не правяраю і ніколі не ўмешваюся, – апраўдала мужа.

Я знарок кашлянуў і зіркнуў у бок Таццяны: прамаўчала, хоць мела на гэты конт іншую думку.

“Генікава” гарэлка ішла тугавата. Апошнія навіны былі абмеркаваны, усе добра-такі прытаміліся. А мяне ўвесь час не пакідала прадчуванне, што гаспадару не церпіцца напаследак здзівіць яшчэ нечым. Ён час ад часу паціраў далоні, нарэшце падняўся, падышоў да шафы і ўрачыста дастаў адтуль… кальчугу. Такія раней даводзілася бачыць адно толькі ў гістарычных фільмах.

– Бро-не-жы-лет! – пафасна вымавіў Генік у адказ на маё нямое пытанне.

Кальчуга сапраўды ўражвала.

– Дзевятнаццаць кілаграмаў і дзвесце грамаў агульная вага. Роўным лікам дваццаць тысяч граveраў[1] пайшло, – Генік не хаваў захаплення сваім дзецішчам. – Усе яны са сталі самай высокай якасці, вытрымліваюць неверагодную нагрузку (была названа і марка сталі).

– А дзе ж столькі сабраць можна? – пацікавіўся я.

– Навошта збіраць?.. Я ж слесарам лічуся, наладчыкам. А на працы не возьмеш – дома не гаспадар. Разумны чалавек сказаў.

Я прыкінуў: калі кожны дзень нарошчваць кальчугу на дваццаць “вочак”, то спатрэбіцца тысяча дзён, каб яе закончыць. Больш за два гады! Кольца да кольца, ланцужок да ланцужка. Перад гэтым жа кожны гравер неабходна яшчэ ачысціць ад мазуту, адпаліраваць, засцерагчы ад карозіі (кальчуга адсвечвала прыглушаным сталёвым блескам). А колькі цярпення і ўпартасці неабходна, каб разагнуць і сагнуць кожнае вочка, “сшываючы” яго з іншым. На маё пытанне “Як?” майстар не без задавальнення зазначыў:

– Не праблема, калі рукі… не граблі, – зыркнуў спачатку на мяне, пасля перавёў позірк на Таццяну, пэўна, чакаючы яе пахвалы. – Усё не так проста, як можа здацца. – Генік набіваў цану “бронежылету”, нібы я збіраўся купіць у яго гэтую вельмі неабходную ў гаспадарцы рэч. Ён з падрабязнасцямі, “па-кніжнаму” выклаў усю тэхналогію.

– Паўтысячы даляраў мне за яго двойчы прапаноўвалі, але я дулю паказаў. Няма дурных, – закончыў канструктар.

---

[1]Гравер (спружыністая шайба) – падкладка пад гайку ў выглядзе разрэзанага металічнага кольца

– І што, любы ўдар вытрымае? – запытаў я недаверліва.

Генік пакрыўдзіўся:

– І лома, і сякеры. Я не кажу пра нож.

Ён сцягнуў з плеч паношаную майку, акуратна зняў “кальчугу” з металічнай, сваёй работы вешалкі і расклаў на ложку. Пасля гэтага стаў на калені, выцягнуў рукі, сагнуўся і ўлез голым рабрыстым целам у яе нутро. Падняўся, рэзка ўдарыў сябе кулаком у грудзі, ухапіў са стала нож.

– Бі, – падаў яго мне, хіжа бліснуўшы вачыма.

Я адвярнуўся.

– Веру, не трэба.

– Ты!

Ручка нажа тыркнулася ў грудзі Галіны.

– Я ведаю, я бачыла, – захінула тая твар далонямі.

– Інтэлігенцыя, маць вашу! – ускіпеў Генік. – Я гарантую, няўжо не ясна?

Ён сціснуў нож у левай руцэ, пакруціў кісцю, нібы нешта раздумваючы, пасля ў імгненне вока перакінуў нож у правую руку, гікнуў і рэзка, што ёсць сілы ўдарыў сябе ў жывот.

У чыстым выглядзе эксперымент не ўдаўся: праз “кальчугу” выступіла некалькі кропель крыві. Жанчыны закрычалі, а Генік, убачыўшы кроў, як звар’яцеў і з яшчэ большай сілай біў сябе нажом у жывот і грудзі. Біў, пакуль не стаміўся. Толькі тады ён выцер кончык нажа аб джынсы і паклаў на край стальніцы. Галіна, бледная як палатно, без слоў узяла нож і паклала ў шуфлядку, далей ад вачэй. Генік тым часам зняў – гэтак жа цырымонна, як і надзяваў – свой “бронежылет”. Увесь жывот мужчыны быў у сіняках, месцамі выступілі кропелькі крыві. Генік акуратна павесіў “бронежылет” у шафу і толькі пасля гэтага дазволіў жонцы памазаць ранкі ёдам.

– Добры нож, таксама маёй работы, – Генік нібы апраўдваў адмеціны на целе. – Не пашчарбіўся нават.

Гаспадар, як нічога не здарылася, сеў да стала, наліў поўную шклянку “сваёй” гарэлкі” і выпіў, нікога не запрашаючы.

Пара было збірацца дамоў.

***

Наступны раз я сустрэў Геніка гадоў мо праз пяць у піўным бары, куды завярнуў па дарозе са свайго лецішча. Выпілі, разгаварыліся. Выявілася, што маладая сям’я толькі што атрымалі новую кватэру, але да рэалізацыі нядаўніх праектаў у гаспадара не было аніякай ахвоты. “Два пакоі, – у словах мужчыны не было

радасці, – але тая ж нара: агульная плошча ўсяго на сем метраў большая. У нас усё як і раней”.

Тады ж пад чарку Генік абмовіўся, што нарэшце знайшоў-такі варты яго кваліфікацыі спосаб зарабляць грошы.

– Яны ўсе яшчэ слінай захлынуцца, калі пабачаць мой катэдж, – пераконваў ён горача. – Агароджа з натуральнага каменя, два паверхі, зімні сад, басейн, камеры назірання, – усё гэта і многа чаго яшчэ абавязкова будзе.

– Наладзіў серыйны выпуск бронежылетаў? – спытаў я асцярожна.

– Таксама скажаш! Гэта ж не было чым час забіць, а на штонебудзь вартае розуму не хапіла. Цяпер пажыў, пабачыў, як іншыя ў людзі выходзяць.

– І да чаго прыйшоў?

– Цяпер, калі ёсць галава на плячах... Адным словам, дзельца праварочваю адно. У долю, прабач, узяць не магу – інтэлігенцыя, а тут рукастыя трэба.

Праўду сказаць, я не меў аніякага жадання ісці да каго-небудзь у кампаньёны. Журналісцкая праца хоць і не давала вялікага прыбытку, але мне падабалася.

– Зойдзем да мяне, пасядзім якую гадзіну, – прапанаваў Генік.

Ісці ў нару, хоць і двухпакаёвую, з выгодамі, не было ніякага жадання. Чамусьці зноў падступіў да горла той, з маласямейкі, даўкі пах. Аднойчы, назіраючы за брыгадай будаўнікоў, якая даводзіла да ладу прыгарадную зону адпачынку, я зразумеў, што ён мне нагадвае: так бывае, калі экскаватар чысціць стары, закінуты роў, зачэрпваючы лязом каўша гнілыя анучы, іл з напластаваннем усякай брыдоты. Але гэта на вуліцы, гэта часова. Ачысцяць – і запахне свежым жвірам.

– Не крыўдуй, другім разам, – кінуў я.

– Ну, як ведаеш, глядзі сам. Другім разам, калі пашчасціць, я запрашу цябе ў свой дом, – як аб нечым запаветным паведаміў Генік. – Цяпер сцены заканчваю, думаю да зімы накрыць. І з маладой жонкай пазнаёмлю: навошта цягнуць старую ў новую хату!..

***

Як стала вядома з крымінальных навін, Генік папаўся на тым, што збываў... пісталеты ўласнай канструкцыі. Нешта крадком тачыў на рабочым месцы ў цэху, нешта выпільваў у гаражы. Камерцыя

каштавала вынаходніку-самавуку восем гадоў з канфіскацыяй маёмасці, тых самых нераспакаваных скрыняў.

А “бронежылет” нейкім чынам дачакаўся свайго гаспадара. І стаў прычынай трагедыі. Генік у чарговы раз дэманстраваў яго надзейнасць новым знаёмым – хацеў прадаць, застаўшыся без капейкі. Хто яго ведае, чаму так здарылася, што лязо адточанага нажа глыбока засела між рэбраў мужчыны. Яшчэ больш рэзкім стаў ўдар? А мо той дзесятак крадзеных гравераў, якія не вытрымалі, аказаўся бракаваным? Ці то вінаваты ва ўсім час? Ёсць жа, кажуць, у канструктараў такое паняцце як стомленасць металу.

## БЫЛА Ў МЯНЕ ШАПКА...

У студэнцкай аўдыторыі пад настрой прапанаваў народную загадку: “Вярхом сядаю, на каго – не знаю. Знаёмага ўбачу – адразу ўскочу.” Пераглядваюцца, пасміхаюцца. Нешта ж ужо вельмі ўсё проста. Як у цяперашніх фільмах. Нават расчараваліся трохі будучыя псіхолагі, калі даведаліся, што так можа сказаць пра сябе шыракаполы інтэлігенцкі капялюш ці звычайную шапку, якую, паводле правілаў для вучняў, што яшчэ і на пачатку сямідзясятых гадоў віселі ў калідорах нашай дзесяцігодкі, трэба было абавязкова прыпаднять, сустрэўшы на вуліцы настаўніка...

* * *

Нацярпеўся я, людзі добрыя, ліха праз гэты галаўны ўбор. Пачынаючы з таго самага часу, як перастаў насіць на бялявай на той час макаўцы нешта вязанае, універсальнае, з бубонам... А вінавата ва ўсім галава, дакладней, яе памеры. Шэсцьдзесят і яшчэ два сантыметры па акружнасці – гэта вам не жартачкі. І “бручкай” яна была ў свой час (малым падабаецца крыўдзіць), і гарбузом... Думаю, што вельмі арыгінальна выглядала гэтая “бручка”, будучы падстрыжанай “пад гаршчок”, бо “страха” ў маладыя гады была – ого!

“Шапачныя” гісторыі пачаліся з самага першага дня ў школе. Як растлумачылі мне старэйшыя вучні, у памяшканні нельга знаходзіцца ў галаўным уборы, нельга таксама класці шапку на вечка парты. Дык я – куды падзець! – пацíху прытуліў яе ў кутку за дошкай. Тую сваю першую “дарослую” шапку я добра памятаю. З васьмі картовых кліночкаў, з гузікам пасярэдзіне, з палоскай пругкага кардону ўнутры... “Як польскі кава́лер...” – пацвельваліся мы адзін з другога крыху пазней, калі пачалі браць за ўзор “гарадскую” моду.

Гадоў да чатырнаццаці давялося насіць галаўны ўбор “мужчынскіх” памераў, а пасля пайшла мода хадзіць наогул з непакрытаю галавою...

* * *

У ротнай капцёрцы (ішоў асенні прызыў) прыдатнай шапкі, вядома, не знайшлося. Калі і ўдавалася нацягнуць якую, памеры на два меншую, – галаву нібы абцугамі сціскала. На пажаўцелых здымках таго часу бачу, што вайсковыя вушанкі ў мяне не надзеты на галаву (паводле вайсковага статута, на два пальцы ад броваў), а вольна ляжаць на ёй. Здаецца, нахіліся – і галаўны ўбор адразу ўпадзе на зямлю. У зімовай шапцы, вядома, можна падвязаць вушы ўнізе. Але ж... смяшней не прыдумаеш. Галава ў такім разе набывае форму ўсечанага конуса. Яшчэ горш, калі ў цябе на галаве вайсковая фуражка. Убор не абы-які, не на кожны дзень...

Зводная рота рыхтавалася да юбілейнага (ішоў 1977 год) парада ў сталіцы рэспублікі. Заканчваўся месяц трэніровак. Як на бяду, адзіная больш-менш прыдатная, “прывучаная” мною да галавы, расцягнутая, “разробленая” фуражка пры аглядзе калоны напярэдадні генеральнай рэпетыцыі не спадабалася камандзіру батальёна. Ён паклікаў старшыну, тыцнуў пальцам у мой бок:

– Галаўны ўбор салдату замяніць!..

– Будзе зроблена!..

Загад ёсць загад. Старшына Курынбасаў доўга перабіраў рэчы на паліцах “капцёркі”, праклінаючы маю “нестандартную” галаву. На складзе патрэбнага памеру фуражак таксама не было. Таварыш прапаршчык пайшоў па суседзях, але тыя выгаралыя, гарбатыя фуражкі, што ён прыносіў, маглі быць выкарыстаны хіба што для сарочынага гнязда. Нарэшце прапаршчыку Курынбасаву ўсё гэта надакучыла:

– Ідзі сам на склад! Мерай! Выбірай з таго, што ёсць! Неяк нацягнеш на сваю “бесталкоўку” (галаву, значыць)! Вытрываеш дзве гадзіны!

Лепшае “з таго, што ёсць” можна было або з сілай нацягнуць на галаву (у вачах адразу цямнела), або пакласці на яе, як напарстак на глобус. Прамежкавых варыянтаў не было.

Помніцца, больш за ўсё я перажываў за тое, як павядзе сябе галаўны ўбор па камандзе: “Смі-і-рна!! Раўненне нале-е-ва!!” Што калі галава павернецца, а брыль фуражкі застанецца глядзець уперад?..

Смех і слёзы... Штрафны батальён замест роднага дому. На галоўнай вуліцы сталіцы!.. Перад аб'ектывамі кінакамер, сярод якіх, вядома, многа варожых, што толькі і чакаюць!..

Фуражка вытрымала, не падвяла. Але ж як няпроста было імітаваць парадны крок: падымаць нагу на патрэбны па статуце вугал і ставіць яе на зямлю падобна танцору балета! І крый божа пры гэтым зрабіць неасцярожны рух галавою. Наогул, прыкрае, мушу вам прызнацца, адчуванне: абцугі аколыша адпускаюць галаву... здаецца, яшчэ імгнеее – і ... Спіна пакрываецца халодным потам, здрадлівыя дрыжыкі па ўсім целе... Хана табе, хлопец!.. Як піць даць, хана!..

Ох і накулялася тая фуражка на танцах у сельскім клубе ўсяго праз два тыдні пасля "гістарычнай" падзеі!.. Галава адмаўлялася трымаць парадны ўбор урачыста-вертыкальна, і ён час ад часу саскокваў у круг. Але ж гэта табе не на парадзе!.. Чалавек на "дзембель" прыйшоў, чалавеку "паложана"!..

* * *

Здараліся непрыемнасці і пасля. Падобна таму, як "вялікія" людзі адчуваюць сябе няўтульна ў магазіне гатовага адзення, так і "галаватыя" – у адпаведным аддзеле ўнівермага ці спецыялізаваным магазіне. Цяпер, праўда, з гэтым прасцей. Рынак...

А тая памятная фуражка з чорным танкавым аколышам не захавалася. Моль убілася – і гатова. Урэшце, не ў музей жа яе было аддаваць. Няхай сабе і ў "гістарычным" парадзе паўдзельнічала. І яшчэ... Іншы раз з сумам разважаю: што як цікаўныя ўнукі, натрапіўшы на мой "дзембельскі" альбом, раптам запытаюць, якія думкі былі ў дзядулі, калі праходзіў урачыстым маршам па галоўнай плошчы сталіцы... Расказаць ім, што атрымаў (усе атрымалі) падзяку камандавання, што мы, верныя свайму грамадзянскаму абавязку і г. д. ... ці даць прачытаць гэтае не вельмі сур'ёзнае апавяданне? Ёсць час падумаць.

## НЕЯК ЯНО БУДЗЕ...

Па дарозе з працы кінуў вокам на гурт падпітых мужчын, што, стоячы кругам, курылі на ўзбочыне тратуара, і пазнаў яго, Міхася

Дарына – былога аднакласніка. Ён тым часам таксама заўважыў мяне і пайшоў насустрач.

З Міхасём мы вучыліся разам з пятага класа: у сярэднюю школу на цэнтральнай сядзібе калгаса сышліся вучні з чатырох навакольных вёсак, дзе былі толькі пачатковыя школы. Неяк не згаворваючыся, мы селі разам. Так і прасед зелі да выпускнога. Не сказаць, што моцна сябравалі, ды і жылі няблізка, але ўсё ж нейкая ўзаемная сімпатыя існавала. Можа, таму, што вучыліся абое нядрэнна – у хлапечых кампаніях гэта не надта ўхвалялася – ды чыталі крыху больш за іншых.

Дарыч мне запомніўся хлопцам спакойным, роздумным. Вялікія шэрага колеру вочы пад доўгімі дзявочымі вейкамі заўсёды выпраменьвалі зычлівасць. І само прозвішча – Дарын – надзвычай пасавала да яго манеры гаварыць, да звычкі не крыўдаваць, не затойваць у сабе злосць.

Што яшчэ я ведаў пра Міхася Дарына?.. Ён даволі позна ажаніўся. Яго Кацярына была амаль на галаву вышэйшая за мужа, ружавашчокая, вабная непадманлівай прыгажосцю вясковай дзяўчыны ў лепшую яе пару. Але за некалькі гадоў сумеснага жыцця яна, як кажуць, добра-такі ўвайшла ў цела, раздабрэла. Міхась жа, хоць і быў гадоў на восем старэйшы, пры ёй здаваўся ўсё тым жа бесклапотным падлеткам – рукі ў кішэнях і кепка на вочы…

Міхась заўсміхаўся, працягнуў руку. Прызнацца, спяшацца мне асабліва не было куды – у дарослых дзяцей сваё жыццё, – і я не стаў рабіць выгляду, што дома без бацькі есці не сядуць.

Мужчына быў на падпіткуы, добра такі “паношаны”, дашчэнту схуднелы. Ён запытаў, што новага ў мяне і, не чакаючы адказу, загаварыў пра сваё.

– Два гады таму – Міхась збіў слязу – памерла жонка. Вясной забрала хуткая, патрабавалася дарагая аперацыя. Адклалі на восень, як схаладае, каб сэрцу лягчэй. Другі прыступ здарыўся ў кастрычніку. Пабыла два тыдні ў рэанімацыі. Усё як бы ішло да лепшага, а яна мне на апошняй сустрэчы: “Гэтую ноч я не пераначую. Беражы дзяцей і ўнука”. Раніцай, за гадзіну як адысці, зноў пра тое ж. Так яно і сталася…”

Міхась на хвіліну змоўк, уздыхнуў:

– І застаўся я на гэтым свеце адзін… Ні бацькоў, ні жонкі.

– Ну а дзеці? У цябе ж дачка, уся ў маці, прыгажуня…

– Каб жа па маці… – вымавіў Міхась і зноў крануўся даланёю вачэй. – Дачка з мужам, як здарылася бяда, перабраліся жыць да мяне. Кватэра ж трохпакаёвая. Свае жыллё здаюць. Не пытаўся, за

колькі. Я наогул не цікаўлюся, на што і колькі трацяць. Маладыя, ім ніколі не хапае. Плачу за кватэру, за святло, за тэлефон, даю на прадукты... Паўтара мільёна атрымліваю на працы, жыць можна... Можна жыць, – як бы пераконваў самога сябе Міхась...

Я ўглядаўся ў твар немаладога на выгляд, па-старэчы шчарбатага чалавека, пазнаваў і не пазнаваў ранейшага сябра. Збітыя чаравікі... Навошта іншыя, паставіў сябе на яго месца, калі і гэтыя можна яшчэ насіць. Не выкідаць жа. Куртка-“вятроўка” – бясколерная, мо і з чужога пляча. Нарэшце, кашуля... Не вялікі сакрэт, што менавіта каўнер кашулі – найпершае сведчанне пра адносіны да мужчыны ў сям’і. Асабліва ў тых выпадках, калі сам мужчына менш за ўсё дбае пра свій знешні выгляд. Ні зашмальцаваная кепка Міхася, ні яго стаптаны абутак не ўразілі так, як кашуля. Такія кашулі – горкая доля тых, каго мы прывыклі называць бамжамі. Але ж гэта няшчасныя без даху над галавой, без капейкі ў кішэні. А тут зусім іншае: ёсць трохпакаёвая кватэра, гарачая вада, родная дачка... Складвалася ўражанне, што Міхасёву кашулю многа часу таму нехта наўмысна пазбавіў колеру, шпурнуўшы ў барабан пральнай машыны разам з прамасленай спецвопраткай і рыззём, а пасля кінуў чалавеку: “Насі!.. Не ў сваты ж ісці”. З той пары адзежына і не здымалася, ці што. Ад таго і каўнер вакол старэчай, худой шыі – як гнілая, пакудзеленая пятля вузлом уніз. Яна – было адчуванне – душыць, і нагінае галаву.

– Жыць можна, – паўтарыў Міхась. – Але навошта? І для каго? Мой мільён маладыя знойдуць і так. Ці на кватэру некага падсяляць... Толькі з Раяй я быў шчаслівы. Прыязджаем, бывала, у бацькоўскую хату, тупаем па двары, на агародзе капаемся. Раіса – яна такая была акуратыстка! – прыкладвае нанач мне да пят мякаць з-пад капелюша сланечніка. Закапвае нейкім узварам вочы. “Цэлы дзень быў на полі, а там вецер, пясок”. А пасля ўсяго ціск памерае, абавязкова...

– У цябе ж дачка, – кажу, каб перапыніць слязлівы маналог, добра памятаючы, як любіў былы аднакласнік расказваць пра сваю Анюту.

– Дачка то дачка... – прамовіў Міхась неахвотна і паскроб пад кепкай, – але ў дачкі ёсць муж, мужава маці.... Ды і яны неяк самі па сабе. Раніцай – толькі “драсссц”, вечарам стараюся так прымеркаваць, каб не блытацца пад нагамі. Мае маладыя добра жывуць. І зяць, і дачка прыгатаваць умеюць. Па тэлефоне сазвоньваюцца, каб гарачае адно аднаму адразу на стол паставіць. І пры чым тут я?.. Апошнім часам падсеў на пельмені – хараство: тут

табе і першае, і другое... А яшчэ пад піва, пад пляшку пладова-выгаднага... Палянуешся – то і так ляжаш. Свабода...

– А што каб шкуру вывернуў, на дыбкі ўзняўся?

– Ну і стаў бы ворагам уласным дзецям. Хай ужо лепш так.

– ... Ці прывёў бы якую.

– Спрабаваў, – Міхась неяк вяла ўсміхнуўся, – у маёй вёсцы пасваталі. Пусціў жанчыну ў хату, сабе ў калгасе працу прыгледзеў, каб дзецям у горадзе не замінаць. Галоўным энергетыкам. У мяне ж тэхнікум за плячыма, вопыт. Прыязджаю праз тры дні, ужо як бы і назусім – і што ты думаеш?.. Усю бульбу недзе спусціла. "Дзе бульба? – пытаю". – "Прадала, а новай у калгасе накрасці не паспела". – "Ідзі з хаты, адкуль прыйшла!" – "Куды я пайду? Мне няма куды ісці..." Ужо пасля даведаўся, хто яна такая – "няшчасная ўдавіца". Бацькі мужа-нябожчыка з хаты выперлі за ўсё харошае, а я, дурань, ледзь не пагарэў. Ужо і да роспісу ішло. Як кажуць, прыгрэй змяюку на грудзях – так і сіліцца заручальным пярсцёнкам згарнуцца. Такія яны, нашы нявесты, што й казаць.

– А тут, у горадзе, спрабаваў шукаць?

– Ды ты што? Мае маладыя... Яны ж мяне... – Міхась абвёў указальным пальцам вакол шыі і і задраў галаву даверху.

– Я б на тваім месцы маладзіцу пад бок і ў зяцеву маласямейку, – падсунуў я яшчэ адзін варыянт. Гаварыў і ведаў, які будзе адказ. Але ж было спадзяванне: а раптам нешта іншае...

– Там цяпер чужыя людзі. Ды і навошта, калі ў мяне свой пакой.

– Застаецца ў прымакі, – падкузьміў я.

– Не паверыш, спрабаваў, – ажывіўся Міхась. – Даваў грошы, хадзіў бокам, каб не зачапіць яе фікусы. Выбранніца ж мая найперш пра ўласных дзяцей дбае. Ды на беднасць сваю жаліцца. І на падазрэнні ў яе штодня. На дзверцы шафы валасок прыладзіла: так хацелася дазнацца, ці капаюся ў яе спадніцах, ці шукаю грошы. У сваёй жа хаце – сам сабе гаспадар...

Працоўны дзень заканчваўся, і людзей на тратуары станавілася ўсё больш. У наш бок, хоць і адышлі на край, паглядвалі непрыязна: маўляў, сталі на дарозе, абыходзь іх тут. А Міхась усё гаварыў і гаварыў. Нібыта выйшаў з лесу і ў першы раз за месяц пабачыў жывога чалавека. Спачуваць не хацелася, а наадварот выпірапла нейкая невытлумачальная злосць і на Міхасёву – у ланцужках і пярсцёнках – дачку, і на самога Міхася. Ужо не Дарына, а, хутчэй, Жаліна ці Бедака, у якога так і не даведаўся за паўтары

гадзіны анічога новага пра гэтае жыццё, не выпытаў разумнай парады... для сябе.

Міхася паклікалі, і ён паспяшаўся развітацца, пасунуўся да мужчынскага гурту.

– Прарвемся, – кінуў напаследак. – Неяк яно будзе.

~~***ВАЧАМІ НАСТАЎНІКА***~~

## ГУЛЬТАЙ

У нашай вёсцы, як і ва ўсёй акрузе, не было злодзеяў. Ніколі гаспадары не замыкалі жывёлу. Адыходзячы з хаты ў поле, затыкалі дзверы «на лазіну». А вось гультай адзін быў, і той не наш, з суседняй вёскі. Мне, малому, вельмі ж карцела даведацца, як выглядае чалавек, якога людзі завуць гультаём. У нас гаварылі часам да слова «як той гультай», але каб дарослага чалавека называлі такім абразлівым словам!..

Праз які час мне давялося пабачыць гультая на ўласныя вочы. Мы, дзеці, зранку збіралі за вёскай пры дарозе расяное шчаўе.

– Глядзіце, дзетачкі, дзе сонца, а гультай толькі з касою едзе, – аклікнуў нас вясковы пастух і паказаў кіем на дарогу.

Да нас набліжаўся чалавек на веласіпедзе. Параўняўшыся з намі, ён прыпыніўся.

– А скажыце мне, – звярнуўся да нас не прывітаўшыся, – ці вы хлопцы, ці казакі?

І «хлопцам» і «казакам» у дадзеным выпадку ў рыфму жадалася непрыстойнае. Мы гэта добра ведалі, як ведалі і «правільны» адказ, але маўчалі, толькі пераглядаліся і паблажліва ўсміхаліся: многа гонару гаварыць абы з кім.

Я ўважліва разглядаў чалавека на веласіпедзе: на першы погляд гультай нічым не адрозніваўся ад звычайных людзей: ні жывата, які б дрыжэў як кісель, ні далоняў-падушак (верш Багушэвіча не выходзіў з галавы). «Быць не можа!» – упарцілася дзіцячая свядомасць, і я ўглядаўся яшчэ больш пільна. Чамусьці адразу не спадабаўся рост мужчыны, вышэй сярэдняга, разгорнутыя плечы, не загарэлы пад шырокім брылём капелюша твар. Нашы дачасна пасівелыя бацькі з вясны да самай восені насілі пашытыя ў мясцовага краўца кепкі, не здымаючы іх і ў летнюю гарачыню. Яшчэ мне здалося, што і каса ў гультая нейкая малаватая, як не сапраўдная…

Не дачакаўшыся адказу, чалавек няспешна паехаў далей, як нічога і не здарылася. А мне чамусьці падумалася тады: няшчасны, ён не ведае, магчыма, пра сваё імя. А калі ведае, то як з ім жыве, жартуе нават…

Нехта з хлапечай кампаніі прапанаваў, помніцца, падпільнаваць гультая на зваротным шляху і насыпаць пад колы веласіпеда бітага шкла або падлажыць цвік – няхай не задае бязглуздых пытанняў. Яго не падтрымалі: няма чаго звязвацца з усякімі…

Добра выхоўвала, цяпер разумею, сваіх дзяцей палеская вёска.

## ЗАСТУПНІЦА

Бабуля шкадуе ўнукаў. Дзед не такі. Разгуляюцца жэўжыкі-непаседы, раскрычацца – цыкне, бровы насупіць, бывае, і папругай прыстрашыць.

І гэтым разам дурэлі, насіліся адзін за адным па хаце. Любімы кубак старога – хрась са стала і на дробныя аскепкі.

Селі малыя на ложку ў кутку, сцішыліся…

– То ж гэта я, дзеду, зусім ніякая стала, – апраўдваецца бабуля. – Выцірала стол, зачапіла пасудзіну – вось табе і маеш.

Стары незадаволена бурчыць, дакарае жонку за слепату і непаваротлівасць. А вінаватыя ўнукі праз якую хвіліну туляцца да бабулі, са слязьмі просяць прабачэння, абяцаюць слухацца заўсёды-заўсёды.

Няпростая гэта справа – народная педагогіка.

## ПРА БАБУ-ЯГУ

Праз два дзесяткі гадоў перачытваю сачыненні вучняў чацвёртага класа «Што добрага я магу сказаць пра Бабу-Ягу». Чацвёртакласнікі – людзі дарослыя, і да іх разважанняў нельга не прыслухацца. Вось якраз пытанне даследчыкам фальклору:

Пэўна, у маладосці ў Бабы-Ягі было вельмі цікавае жыццё. Чаму няма казак пра маладую Бабу-Ягу?

А гэта пісаў цяперашні выпускнік філасофскага факультэта:

– Баба-Яга вымушае герояў змагацца за іхняе шчасце. Сапраўднае шчасце тое, што ты заслужыў сам. Яно не даецца лёгка. Значыць, робячы дрэнныя ўчынкі, Баба-Яга дапамагае героям.

Усміхнуўся і нічым не змог запярэчыць яшчэ аднаму дзесяцігадоваму аналітыку:

– Баба-Яга злая таму, што адзінокая. А калі, напрыклад, вас завесці ў лес і пакінуць там на доўгі час?..

Не, не хачу я ні ў лес, ні ў Гімалаі. Хіба што на дзень-другі. Мне добра сярод людзей. А вось пра Бабу-Ягу даведаўся многа. Можа, не столькі пра Бабу-Ягу, як пра іх, сваіх выхаванцаў.

## НАСТАЎНІК

Ледзь праціснуўся з букетамі кветак у пакой. Першы званок, лінейка. А свята на душы няма. Баліць галава ад жыццёвай неўладкаванасці, ад дзясяткаў «неабходна» і «тэрмінова».

Наліў у ва́зы і слоікі вады, расставіў іх – не разумеючы навошта – на падлозе літарай «П». На перакладзіне – гладыёлусы і ружы, па баках – астры і гваздзікі. Як быў – у пінжаку, пад гальштукам – лёг на спіну, выпрастаў ногі, склаў рукі на грудзях.

Сплывалі, адыходзілі думкі, рабілася лёгка і спакойна. А праз хвіліну-другую з жахам адчуў, што кветкі больш не пахнуць. Ад гэтага стала раптам вусцішна. Сцепанула, холад прабег па спіне.

Усхапіўся на ногі, абазваў сябе дурнем і без разбору, без усякага парадку стаў прыбіраць букеты з падлогі.

## ЗА ШТО?..

Дырэктар перадавой, узорна-паказальнай школы, жанчына перадпенсійнага ўзросту, у цэлым задаволена працай маладой выкладчыцы гісторыі:

– З часам вы можаце стаць добрым настаўнікам. Бачна імкненне да новых тэхналогій. Добрыя водзывы бацькоў і вучняў. Дрэнна адно: на бальнічным па доглядзе ўласнага дзіцяці вы знаходзіліся, па маіх падліках, больш як тры тыдні. Пастарайцеся за час адпачынку вырашыць пытанне. На першым месцы ў кожнага з нас павінна быць праца.

– За што так? – толькі і змагла вымавіць пачынаючы педагог. Пасляшалася да дзвярэй і ў калідоры ля акна дала волю слязам.

## АНТРАКТ І «КАНТРАКТ»

Настаўніцу беларускай мовы, незамужнюю, не першай маладосці «ўсходніцу», у школе пабойваліся і недалюбнівалі. Гэтая нелюбоў была ўзаемнай. І калі з боку вучняў яна вонкава не выяўлялася, то з боку педагога... Якіх толькі мянушак не раздавала

настаўніца сваім вучням, асабліва хлопчыкам. І «недапечаныя» былі ў кожным класе і «недаробленыя», не кажучы ўжо пра «трутняў», «боўдзілаў» ды «ёлупняў». Праўду сказаць, і тыя, хто рыхтаваўся да кожнага ўрока, асаблівай ласкі не мелі.

Класе ў пятым, помніцца, задала Рэгіна Маркаўна (назавем яе так) прачытаць да наступнага ўрока кароткія і вельмі смешныя – як яна сказала – апавяданні Якуба Коласа. Немалы спіс пачынаўся апавяданнем «Антракт».

– Ведаеце, што такое «антракт»? – без надзеі на станоўчы адказ запытала наша настаўніца.

Палешукі-пяцікласнікі такое слова чулі першы раз.

– Антракт, – Рэгіна Маркаўна пераможна абвяла вачыма клас, паднесла да носа сухі указальны палец, – гэта не што іншае, як перапынак паміж часткамі тэатральнай пастаноўкі. Гледачы могуць у час антракту выйсці ў фае, вестыбюль, пазнаёміцца з рэпертуарам… – сыпаліся нязвыклыя слыху, як з іншага жыцця словы.

– Што значыць чалавек у вялікім горадзе вучыўся, – зайздросціў ці адзін я. – Не тое што мы, балота.

Зачытаны зборнік Коласавых апавяданняў знайшоўся ў сельскай бібліятэцы. Гумарыстычнае апавяданне пісьменніка – ведаю з той пары – называлася «Кантракт» і не мела ніякага дачынення да тэатра. «Антракта», вядома, не прачыталі ні «доўбні», ні выдатнікі.

– Дрэнна шукалі, – не раззлавалася на гэты раз настаўніца. – Ды што з вамі зробіш.

На стале ў Рэгіны Маркаўны ляжала знаёмая мне кніга апавяданняў Якуба Коласа.

## ЧЫТАЧЫ

Яны ехалі з Брэста ранішнім цягнікам – маці і двое дзяцей. Хлопчыку на выгляд было гадкоў дванаццаць, дзяўчынцы – мо на які год болей. Уразіла знаёмая вокладка ў кнізе, што трымала ў руках дзяўчо – п’есы Мальера. Па пазакласным чытанні на лета задаць не маглі – рана яшчэ, – і да студэнткі (акурат сесія) юная чытачка яўна не дацягвала па ўзросце.

Яшчэ больш здзівіла кніга на каленях у хлопчыка – акадэмічны том Шэкспіра, і мною самім як трэба не прачытанага.

Перавёў вочы на маці: гадоў пад сорак, з лёгкай сівізною, удумлівымі светлымі вачыма, па-сучаснаму, але сціпла апранутая жанчына. Час ад часу яна адрывалася ад кнігі вершаў – чытала

таксама, – задуменна глядзела ў акно, а то пра нешта ціха перагаворвалася з дачкою.

А малы – рыжаваты, у модных джынсах і яркай жоўтай майцы, з моднай – валасы тырчком – прычоскай, – не адрываючы вачэй ад кнігі, так і праседзеў з Шэкспірам у худых, па-дзіцячаму кволых руках усе чатыры прыпынкі…

Праўду сказаць, у маёй дарожнай сумцы таксама ляжала кніга. Выпадковая, у дарогу. Так і не дастаў.

## ДАКУМЕНТ

Мой былы вучань, чацвёртакласнік Паша Мышленік, у сачыненні па беларускай мове 27-га кастрычніка 1991-га года напісаў пра восень: «Ідуць дажджы. Людзі сумуюцца, што няма чаго абуць на ногі».

Колькі гадоў прайшло, колькі яшчэ пройдзе… А людзі па-ранейшаму «сумуюцца».

## ВЫХАВАЎЧЫ МОМАНТ

Вучань другога класа, выдатнік і ціхоня, у ліку іншых быў злоўлены дырэктарам школы на будоўлі, куды хадзіць катэгарычна забаранялася. З гэтай нагоды ў школе адбылася агульная прафілактычная лінейка.

– Сацэвіч! – дайшла чарга да найменшага з парушальнікаў.

Бледны як палатно васьмігадовы «злачынца», угнуўшы галаву, выйшаў на сярэдзіну.

– Што ты рабіў на будоўлі? – голас дырэктара не абяцаў літасці.

– Павукоў лавіў, – адказаў малы чыстую праўду.

– А што калі б цагліна ўпала на тваю дурную галаву і праламала чэрап?!

Вінаваты маўчаў, намагаўся ўсміхнуцца, але ўсмешка выходзіла жаласлівай, праз боль.

Агульны сшытак вялікага фармату, здавалася, вось-вось апусціцца на галаву вучня. Той яшчэ больш угнуўся, увабраў галаву ў плечы. Але кіраўнік школы абмежаваўся традыцыйным тузаннем за вушы. Парушальнік дысцыпліны ўсё з той жа неразумнай усмешкай вярнуўся на месца.

– Трэба было казаць: «Даруйце, я больш не буду, – з найлепшымі намерамі навучаў нехта з аднакласнікаў. Хлопчык маўчаў.

– Гэта мяне выклікалі са строю, мне накруцілі вушы, – хвалявалася маладзенькая настаўніца другакласнікаў. – Як пасля ўсяго я буду дзіцяці ў вочы глядзець?!

## "РАЗРЕШИТЕ ВЗЯТЬ КОНСЕРВЫ"

Мне шэсць гадоў. Прыбег з суседняга хутара Андрэй, стрыечны брат.

– Давай підым по канцэрвы. Я знаю, дэ йіх можна ўзеты.

Разжыцца пустымі бляшанкамі Андрэй намерыўся ў касцоў, якія начавалі ў палатках на астраўку за хутарам, бо дабірацца кожнай раніцы з мястэчка далекавата, ды і касіць на досвітку лягчэй. Навошта спатрэбіліся нам тыя "канцэрвы", я ўжо і не памятаю. Ды ці мала на што: прасейваць пясок, напрыклад, ці сушыць пірагі з гліны, тых жа куранят карміць…

Андрэй адразу папярэдзіў, што касцы не нашы, здалёку, і з імі трэба гаварыць па-гарадскому. Рускай мовы да гэтага я не чуў, калі не лічыць правіл з падручніка, якія старэйшы брат іншым разам расказваў на памяць, запалохваючы будучага шкаляра: "Не вывучыш "на зубок" – цябе адразу ў куток на цэлы дзень паставяць, на гарох". Як звяртацца да касцоў, Андрэй прадумаў загадзя: "Здраствуйте! Разрешите взять консервы"…

Напэўна, смешна мы выглядалі ў вачах мужчын-касцоў. Не памятаю, што і як яны адказалі? Нават ці спатрэбілася завучанае – не ўпэўнены.

Прайшло амаль паўстагоддзя. На жаль, няма ўжо на гэтым свеце майго стрыечнага брата. Многае сцерлася з памяці. Марна стараюся ўзнавіць абставіны таго нашага "паходу" за дзве грэблі. Але "Разрешите взять консервы" – засталося назаўсёды. Першая "дзелавая" фраза на рускай мове.

## УСЯГО ТОЛЬКІ ГУЛЬНЯ

Сярэдзіна шасцідзесятых. У абёмістую каробку "Падарунак першакласніку", з якой разышліся сшыткі і алоўкі, мы, басаногая вясковая дзятва, пачалі складваць "грошы" – цэлафанавыя абгорткі ад цукерак. Многа назбіралася за месяц-другі, не закрыць. Што з гэтым багаццем рабіць?.. Каб цяпер, можна было б і ў банкіраў

пагуляць, і ў кілераў. А тады?.. "У калгас", – прапанаваў нехта з нашых. "У калгас! У калгас!" – згадзіліся ўсе. Тым самым днём абралі старшыню, брыгадзіра і чамусьці начальніка гаража.

Наступным разам доўга вырашалі, чым займацца, бо ўсё лета наперадзе. Для пачатку надумалі зрабіць так, каб у вёсцы ўсё было па-гарадскому. Старэйшыя хлопцы выкапалі на балоце некалькі кволых бярэзінак, уваткнулі дрэўцы на самай гары, дзе і палын не хацеў расці. Усё гэта па прапанове нашага брыгадзіра было названа паркам культуры і адпачынку. Пасля – сам сабе і шафёр, і машына – нamатаў кожны з нас кругоў па дзесяць вакол парка, сігналячы што ёсць сілы пры абгоне.

Дрэўцы, вядома, загінулі. Што рабіць далей – не ведалі ні старшыня, ні калгаснікі. Ледзь не да бойкі дайшло ў хлопцаў. А ў хуткім часе прыдумалі іншую гульню, не такую складаную.

Ну а "грошы" так і засталіся незаробленымі.

## СУСТРЭЧА

Я чакаў аўтобуса, каб ехаць дамоў пасля заняткаў ва ўніверсітэце. Не адразу зразумеў, што прыгожая, па-сучаснаму апранутая дзяўчына, якая выйшла з кнігарні непадалёку, накіравалася да мяне. Сказаць праўду, дзяўчаты, маецца на ўвазе студэнткі, заўважаюць маю сціплую асобу найчасцей тады, калі трэба нешта пераздаць, папрасіць адтэрміноўкі з кантрольнай або курсавой.

– Андрэй Пятровіч, добры дзень! Вы мяне пазналі? Я ваша вучаніца – Сняжана Васілевіч. У мяне былі вялізныя банты. Я сядзела на першай парце ад акна, – узбуджана загаварыла дзяўчына.

У станістай прыгажуні цяжка было пазнаць былую першакласніцу. І ўсё ж я пазнаў: па ўсмешцы, па тых ледзь улоўных дзіцячых рысах твару, якія не змаглі сцерці гады. Паслужлівая памяць імгненна перанесла амаль на чвэрць стагоддзя назад: прыгарадная школа, мой першы клас, дваццаць пар чыстых дзіцячых вачэй...

– У цябе былі доўгія чорныя валасы?

– Былі... Да сёмага класа...

Усплыло-ўзгадалася, як пасля ўрокаў фізкультуры Сняжана блытаецца ў мудрагелістых шлейках школьнага фартуха і я, настаўнік называецца, не магу толкам дапамагчы. Яшчэ ж перашкаджала каса, доўгая, цяжкая, заплеценая валасок да валаска. Ніякія "кошкі-мышкі" на тым жа ўроку фізкультуры не маглі яе растурзаць.

Заўсёды акуратная, усмешлівая Сняжана напамінала мне дзяўчынку з вядомага многім пакаленняў шкаляроў плаката “Сядзі правільна пры пісьме”. Яна заўсёды сядзела прыгожа.

– Памятаеце, Андрэй Пятровіч: я хацела атрымаць па чытанні “пяцёрку”, а вы паставілі “чатыры”. Баяліся, што перастану старацца?..

Не ўспомніў. Тады, выходзіць, не прыдаў значэння. А яно вось як бывае…

Сняжана, зрабіў я міжвольнае адкрыццё, цяпер вельмі падобная да сваёй маці. На бацькоўскіх сходах жанчына сядзела на той самай, першай ад акна, парце і яе шчокі прыёмна ружавеліся, калі я – было за што – хваліў дачку.

Сняжана спяшалася. Яна чарговы раз зірнула на гадзіннік і запытала – неяк не ў лад, раптоўна, нечакана:

– Андрэй Пятровіч, колькі вам гадоў?

– Пяцьдзесят адзін, – нават разгубіўся я.

– А майму мужу пяцьдзесят тры… – Памарудзіла хвіліну: – Жывём на Рэчыцы, у катэджы. У нас двое дзяцей, старэйшы хлопчык вучыцца ў трэцім класе…

Не скажу, што вельмі здзівіўся. Бывае і не такое. Але чаму яна запытала? Хацела лішні раз пачуць банальнае “Калі ёсць каханне, то ўзрост не мае значэння” ці не менш фальшывае “Ну-у-у, хіба гэта ўзрост для мужчыны?!”

Я не ведаў, як сябе павесці, што гаварыць. Віншаваць – няёмка, лезці ў душу, выпытваць – непрыгожа таксама.

У гэты час недзе далекавата засігналіла машына. Сняжана паспешліва развіталася, ледзь не пабегла на яе патрабавальны покліч.

“Ці хоць шчаслівая ты, дзіця?” – прамовіў сам да сябе.

Перад тым, як знікнуць за паваротам, былая вучаніца ў апошні раз азірнулася і памахала рукою на развітанне.

## ХТО ЧЫЙ!..
*(равагі шасцігадовага суседа)*

У нашых суседзяў па лесвічнай пляцоўцы жыве сабака Тошык. Яго гаспадары – цёця Ніна і дзядзя Віця – вельмі любяць свайго гадаванца, стараюцца ўсюды браць з сабой. А калі яны на працы, Тоша сумуе і жаласна скуголіць, нібы малое дзіця. Я бачыў не раз, як дзядзька Віця засцілаў канапу ў зале чыстай прасцінаю, вешаў на нос акуляры і старанна абразаў маленькімі нажнічкамі Тошыкавы кіпці. Выстрагаў паміж імі поўсць.

Цёця Ніна па некалькі разоў на дзень гуляе з Тошыкам у двары, пераносіць яго праз лужы, дакарае, калі той не слухаецца. А яшчэ яна злуецца на дзяцей, як толькі хто-небудзь з іх намерыцца зачапіць сабаку. Цёця Ніна кажа, што Тошык стары, дрэнна бачыць і яму патрэбен спакой Але ж як гэта малое можа быць старым?

Ёсць у нашым пад'ездзе і яшчэ адна цёця Ніна. Яе называюць па імені, або Сцяпанаўнай. А вось наша суседка не проста цёця Ніна, а цёця Ніна *Тошыкава.*

А ў мяне жыве сабака Тузік. Мне вельмі падабаецца яго смешнае імя. А вось не хочацца чамусьці, каб нехта называў мяне Мішам Тузікавым. Можа, я нешта не разумею? А вы як лічыце?

## ПРА ВАНЮ І ТАНЮ

Бабулі бываюць розныя. Ёсць і багатыя, маюць ва ўласнасці катэджы. Вывелі бабулі ў людзі сыноў і дачок, жыць бы і не тужыць, а тут Бог за нейкія грахі пакараў іх нікуды не вартымі нявесткамі ці зяцямі. Бабулі скардзяцца на ўзрост, на галаўны боль. А паспрабуй хто кіўнуць у знак згоды, згадзіцца, што ўжо і гадоў зашмат, што і выглядае чалавек акурат на свой узрост... Ой, пападзеш у няміласць!..

У Надзеі Паўлаўны ўнукі-двайняткі – Ваня і Таня. Ваня, па словах бабулі, такі ўжо разумны: зайграе музыка – дзіцё адразу ж танцуе, тупае, трымаючыся за парэнчы ложка. А яшчэ Ваня ўмее паказваць ручкамі, які ён вялікі. Таня ж – зусім іншае дзіцё. Якая вялікая – не паказвае, ножкамі ў падлогу не ўпіраецца...

Слухаю і не разумею ўжо й не маладую, але добра апранутую і падфарбаваную бабулю да таго самага моманту, пакуль яна, даўшы падрабязную характарыстыку Ваню і Тані, з задавальненнем не канстатуе: “Ваня на мяне падобны, ну выліты я”. На каго падобная Таня, можна не пытаць.

Не пашанцавала пяцімесячнай ад нараджэння Тані.

## ПРА КАЛІГРАФІЮ

Не арыгінальны. Чыставыя варыянты апавяданняў люблю перапісваць добрай ручкай, блізкім да каліграфічнага (звычка настаўніка пачатковых класаў) почыркам. Падабаецца пісаць няспешна. Калі пераношу на чыстую паперу пакрэсленыя, у некалькі паверхаў, у некалькі колераў радкі – заўсёды адчуваю руку першай настаўніцы, што ляжала на маёй руцэ сорак гадоў таму. І вельмі хочацца, каб слова не хлусіла.

# ~~ЖЫЦЦЁ, ЯГО ВЯЛІКАСЦЬ~~…

## ЯК ПРЫХОДЗІЦЬ СТАРАСЦЬ

Яе бязлікасць прыходзіць незаўважна, няпрошана. Угінаецца галава, плечы, паводле нейкага нявынайдзенага навукай закону паступова, але несупынна апускацца і выгінацца ўперад. Нічога не каштуе – якія яшчэ там гады! – схамянуцца, разгарнуць плечы, узняць галаву. Але – чым далей, тым часцей – няма жадання, няма неабходнасці, ды, урэшце, навошта намагацца, калі так яно неяк нават зручней.

І самае дзіўнае, што гэта ўсіх задавальняе, не раздражняе тых, хто старэе побач. Год, другі – і здаўся чалавек, падпарадкаваўся, зміръіўся… Яшчэ на аднаго дзеда стала ў свеце больш.

І ўсё ж… Не лянуймася быць маладымі!

## ПАКІНУТЫЯ ХАТЫ

Цэлая паласа хат – былых хутаркоў – уздоўж чыгуначнага палатна. Сцены пачарнелі. Дахі даўно праваліліся. Самі будыніны глыбока аселі да зямлі і нагадваюць цяпер (пэўна, праз адсутнасць франтонаў) засушаных, пакурчаных шчупакоў з раскрытай бяззубаю пашчай, з чорнымі вачніцамі ды пераламанымі хрыбетнікамі. Асабліва недарэчна глядзяцца мёртвыя хаты на фоне блакітнага неба і чэрвеньскага разнатраўя. І толькі купкі бэзу, што ціснуцца да дзвярэй у сенцы, сведчаць: калісьці тут было жыццё.

## АДНОЙЧЫ Ў СПЁКУ

Страшэнная задуха. На тэрмометры добра за трыццаць. На вуліцы пад выцвілымі парасонамі ля шчарбатых прыступак гастранома купкі размяклых мужчын з півам і танным вінам. І міма ліпкіх сталоў з рабрыстымі аднаразава-мнагаразавымі ёмкасцямі для пітва, міма сцен з аблушчанай пліткай, міма чэзлых, затаптаных кустоў малады, шчаслівы бацька ў белай тэнісцы беражліва нясе на загарэлых руках кучаравае, шчаслівае, задаволенае жыццём і сонцам зусім голае немаўля.

Два светы перакрыжаваліся каля старога гастранома.

## УМЕЦЬ ПАТРАПІЦЬ

Іван Сцяпанавіч (невядомы многім гасцям родзіч гаспадыні) затрымаўся, як было з гонарам паведамлена на пачатку застолля, “на адказнай нарадзе”.

Адразу з парога – слова шаноўнаму госцю.

– Будую дом на дзевяноста кватэр. На чарзе толькі шэсцьдзесят. Ідзі да мяне юрыстам (паблажліва да гаспадара). Пашлём на курсы – і ўсе праблемы. А жонку (імгненне падумаў) – у буфет...

Тая ледзь у ладкі не пляскае. Муж, няўдаліца-гісторык, спяшаецца напоўніць чаркі за здароўе будучага начальніка.

– Раніцай да міністра еду, – ленавата працягвае той, – інакш можна было б на поўную расслабіцца. Я нікога, паверце, (звяртаецца да мужчын) не вазьму на працу, пакуль не пасяджу з ім за сталом, не даведаюся, на што здатны. Так і скажу адкрыта, калі слабы па гэтай лініі: ты мне не падыходзіш.

– Чыстая праўда, – запабягае ўсё яшчэ ўзрушаны прапановаю гаспадар. – Навучыўся б я ў свой час піць, даўно ў людзі выйшаў бы...

Дзіўна гэта чуць ад чалавека, які ніколі сам не шанаваў (і другім не раіў) ні чарку, ні шумнае застолле. Але ж...

## ЛІЧБЫ НА СЭРЦЫ

Калі б я не купіў пральную машыну, то да гэтага часу хадзіў бы ў прыёмны пункт камбіната бытавога абслугоўвання, адзінага ў нашым мікраараёне. Маладжавая ўсмешлівая прыёмшчыца ўжо не пытала б ні майго прозвішча, ні адраса, ні нумара біркі, які лёгка адбеліваецца сучаснымі пральнымі сродкамі. Я канстатаваў бы кожны раз, што тут нічога не змянілася: ні цяжкі стол, ні алоўніца са шпулькаю белых нітак, ні люстра, ні стары дагледжаны фікус на ўваходзе. А яна заўважыла б, што прынесеныя пінжакі ўвесь час выцерты на адным і тым жа месцы (не дарос да мяккага крэсла), а вузел з бялізнай я, пэўна, так ніколі і не навучуся завязваць.

Магчыма, яна расказала б яшчэ, што мужчыны – хто жартам, а хто і з болем – называюць шасцізначныя біркі на прасцінах і навалачках “лічбамі на сэрцы”. І вельмі магчыма, што мы, нарэшце, пазнаёміліся б.

## НЕ ЯК НАРМАЛЬНЫ...

Мімахадзь, не жадаючы таго, падслухаў размову дзвюх сябровак.

– Разумееш, – праз слёзы скардзілася адна з іх, – начальнік сёння крычаў на нас як вар'ят, а не як нармальны чалавек.

– Не перажывай. І наш гэтакі ж, – супакоіла яе другая.

Колькі жыву, не ведаю, як крычаць “нармальныя”.

## МАСТАЦТВА

Кадр з кінафільма і выпадковы, але прафесійны здымак імгненняў чалавечага смутку, радасці, здзіўлення, захаплення ці роспачы... Параўнанне, часцей за ўсё, не на карысць акцёра. Пачуцці амаль немагчыма сыграць, амаль немагчыма перадаць на паперы. І ўсё ж...

Шчаслівыя творцы, якія прымушаюць нас верыць. Мастацкая праўда дапамагае разумець праўду жыцця. Інакш навошта тады фільмы і тэатральныя пастаноўкі, навошта апавяданні і раманы.

## ПРАЦЯГУ НЕ БУДЗЕ

Яна грацыёзна зачыніла дзверцы бліскучага чорнага аўтамабіля і пайшла па тратуары насустрач, высокая, статная, з выразнымі жаночымі формамі. Чорныя батфорты на высокіх абцасах адмервалі роўныя, сантыметр у сантыметр, крокі. Чорная скураная куртка сціскала моцныя грудзі. Такога ж колеру міні-спадніца падкрэслівала маладую сілу і жаданне. Уразілі валасы, цёмныя, распушчаныя, да пояса.

Я міжволі адступіў убок і прыпыніўся. Патыхнула дарагой парфумай, затухкала сэрца. Ці не на яго стук жанчына на імгненне павярнула галаву, яшчэ вышэй прыўзняўшы яе, стральнула цёмнымі, як ноч, вядзьмарскімі вачыма пад цяжкімі вейкамі...

Яна прайшла міма. Я ўгледзеўся ў нумар дарагога аўто, з якога толькі што выйшла незнаёмка, і здрыгануўся – “1782”. Акурат у гэтым годзе – як на бяду, прачытаў учора нанач – спалілі апошнюю на тэрыторыі сучаснай Еўропы ведзьму...

Вядома, я мог бы “дасачыніць” прыгоды сучаснай ведзьмы, вывесці яе радаслоўную, “скатаць валёнак” з таго, што прачытаў ці пабачыў у “Бітве экстрасэнсаў”. Але навошта?.. Вы ж мне ўсё роўна не паверыце, бо была толькі адна выпадковая сустрэча, калі гэта можна так назваць.

## ПЕРАЖЫТКІ

Калі ў універсітэце марксізму-ленінізму, які я, беспартыйны, меў гонар закончыць гадоў трыццаць таму, лектар са шкадаваннем гаварыў пра перажыткі мінулага ў свядомасці савецкага чалавека, мне бачылася: зграбаюць смецце – акуркі, рыззё, атопкі – і запіхаюць гэта ў дупло жывога дрэва, замест таго, каб вывезці ўсё на сметніцу, а дупло залячыць, зараўняць.

Прыкладна тое ж адчуванне, калі чытаю і слухаю цяпер пра адгалоскі “саўковай” псіхалогіі.

Як гэта няцяжка, біць пад дых маўклівае мінулае!

## ЯК ГРЫБОЎ...

Няма асаблівага жадання і магчымасці выпісваць усе моўныя казусы з пісьмовых прац абітурыентаў. Тут каб толькі не прапусціць чаго. Але тое-сёе і без запісу помніцца. Чытаю: “На Беларусі паэтаў як грыбоў, і самы вялікі грыб – Янка Купала”. Раздражнёна падкрэсліў, вынес за палі моўную памылку. А праз некаторы час калега-экзаменатар: “Што яны пішуць!.. “На Беларусі паэтаў як грыбоў, і самы вялікі грыб – Максім Багдановіч”.

Пасля “расшыфроўкі” стала зразумела: адна і тая ж школа ў аддаленым раёне. Што тут скажаш?..

## ІДЫЛІЯ

Невідушчых кацянят побач з прыладаванай ім пад жыллё кардоннай скрынкай я заўважыў на адхоне парослага кустоўем рова яшчэ ранняй вясной. Пасля малыя некуды зніклі. Але сёння... Перайшоў па кладцы да сваіх сямі сотак і не паверыў вачам: на

жардзіне, што падтрымлівала галіны маладога вінаградніку, сядзела двое вогнена-ружовых кацянят. Трэцяе, шэрае, пушыстае, гарэзіла на даху бытоўкі-вагончыка. Праз хвіліну, ужо на зямлі, малыя барукаліся, дурэлі, ганяліся за матылямі. Тут, у балотнай глухамані, – ні газу, ні святла, ні калодзежа нават – яны адчувалі сябе не горш, чым на гасцінным вясковым падвор'і. Кацяняты цешыліся жыццём, а я стаяў нерухома, баючыся спужаць малых, прыслухоўваючыся да свята душы. Хацелася напаіць бесклапотных гасцей малаком, узяць на рукі, пагладзіць... І разам з тым здрадлівая думка прамільгнула ў галаве: а калі б мяне сустрэў немы, галодны каціны крык?.. Такія ўжо стварэнні мы, людзі. Не любім быць побач з тымі, хто енчыць і кволіцца.

З боку парослай лебядою мяжы пачулася нягучнае мяўканне: са здабычай у зубах вярталася з палявання маці-кошка. Худая, з пляскатымі бакамі, ускалмачанай на спіне поўсцю, яна крадком прабіралася да вагончыка, на даху якога, як на цёплай печы, даганялі хвасты шчаслівыя дзеці.

## П'ЯНЫ ГАРМОНІК

Что ж ты бродишь всю ночь одиноко?
Что ж ты девушкам спать не даёшь?..

Шырокая і адкрытая мелодыя выдатна перадае святую нерашучасць лірычнага героя. Успамінаецца дзіцячае: бацька, чалавек негаваркі, маўклівы і ў застоллі, пасля адыходу гасцей сядае курыць перад адчыненымі дзверцамі грубкі, падкладае ў агонь сухое паленне і ціха-прыемна спявае некалі прывезеную з далёкай Варкуты песню.

А нядаўна з тэлевізара:

Только слышно на *улочках* где-то...
Что ж ты *девочкам* спать не даёшь?..

Вуліца з начною прахалодаю, з яблынямі, што губляюць густую квецень, зрабілася вулачкай – крывой і бруднай. Гармонік, п'яны валацуга, склікае тых самых "девочек".

Усяго два словы...

## КАЛОДЫ І СЯКЕРА

Напярэдадні зімовых халадоў на новае, не зусім давездзенае да ладу леціічча прывезлі гару таўсматых сасновых калодак на дровы. Спрактыкаваны дрывасек выбраў тую, што здалася яму цяжэйшай ды больш сукаватай, чым астатнія, уладкаваў яе, каб не хісталася, на зямлі і ўзяўся за звыклую працу.

Праз гадзіну-другую з кучы выступіла яшчэ адна тоўстая, з ідэальна роўнымі зрэзамі калода – больш мажная і сукаватая, як першая. Калодкі тут жа памяняліся месцамі, бо дрывасек быў чалавекам дужым і не любіў пакідаць цяжкую працу напаследак.

І гэтак паўтаралася не адзін раз, пакуль усе дровы не апынуліся пад павеццю. Урэшце, апошняя калода ўратавалася. Пратырчала пад страхой зіму-другую, пачарнела, падгніла і глуха рассыпалася пад узмахам усё той жа сякеры, калі прывезлі новую машыну калод.

Такая вось "дравяная" філасофія.

## ВЫСОКАЯ СТОЛЬ

А я заўважаў у дзяцінстве, як расту, хоць ніхто з дарослых не рабіў зарубак на вушаку. Памятаецца, узяў звычку следам за старэйшым стрыечным братам, падскокваючы, даставаць пальцамі правай рукі да бэлькі, што ў сенцах. Зрабіць гэта напачатку – які там расточак! – было немагчыма. Тады і з'явілася выструганая ламачына, што захоўвалася ў кутку на печы і паступова, месяц за месяцам падразалася. Урэшце, класе мо ў шостым, яна і зусім не спатрэбілася.

Яшчэ праз год-другі занятак і наогул перастаў быць цікавым: толькі злёгку адштурхнешся – і пляскай даланёю па бэльцы. А калі трохі намагчыся – то і па самой столі.

З таго часу хата паніжэла.

Падымаю абедзьве рукі, устаю на дыбачкі, каб правесці па шурпатых шчоках пачарнелай ад доўгага веку бэлькі, задзіраю галаву – і так хочацца прыгнуцца, каб пабачыць уверсе над сабою высокую столь.

## "М-Ы-Ы-АМ..."

У пярэднім пакоі адазваўся тэлефон. Нумар "не адбіўся". Мужчына падняў трубку, але не спяшаўся гаварыць першым.

“Марынка, дачушка, добры дзень!” – данёсся напаўзабыты голас. Званіла былая жонка. Не адказаў, паклікаў дачку.

“Нармальна...”, “Працую...”, “Сяргей вырас, у войску цяпер. Ездзілі на прысягу...”, “І я цябе таксама...” Пра змест размовы здагадацца было няцяжка. У той жа час, бацьку ажно шкада стала сваю дваццацітрохгадовую “малую”. У Марыны нейкі істэрычны, нервовы смех. Усяго праз некалькі хвілін дачка развіталася і паклала трубку.

– Запрашае на свой юбілей. Просіць прабачэння за ўсё. Цікавілася, ці замужам я, ці вянчаліся... – адказала Марына на маўклівае запытанне бацькі.

– Ну і як табе?..

– Разумееш, тата... Ведаю, што трэба гаварыць “ты”, але язык не паварочваецца, не магу сябе перасіліць. І называць яе не ведала як.

– Глядзі сама, не дзіця ўжо...

Званок паўтарыўся праз некалькі дзён у той самы час.

– Маці звоніць... – паклікаў мужчына дачку, не маючы аніякага жадання гаварыць сам.

– Маці!.. Адвыкла зусім ад гэтага слова, – не кінулася на званок і Марына.

– Ну, тады кажы... цёця-мама, – усміхнуўся чалавек змушана. – Трэба ж неяк звяртацца.

Марына, не спяшаючыся, падышла да тэлефона, вінавата паглядзела на бацьку. Той схаваўся ў сваім кутку, каб не парашкаджаць, але дзверы за сабой не зачыніў. У нейкі момант чалавек заўважыў, што дачка ўсё ж такі перамагла сваю нерашучасць: у яе дзяжурным адказе адзін і другі раз пракінулася “мама”. Але... Ён ніколі не чуў, каб нехта падобным чынам вымаўляў гэтае дарагое для кожнага слова: скарагаворкаю, не раскрываючы рота, паспешна-нервова – м-ы-ы-ам...

Бацька не пакрыўдзіўся, хоць міжволі і адчуў, нібыта ў яго нешта крадуць...

Маці пачала званіць роўна праз дзесяць гадоў пасля таго, як знікла з дому.

## **“...ПО ОСНОВНОЙ БОЛЕЗНИ”**

Мамін брат яшчэ мог бы пажыць, калі б маладая доктарка ў раённай паліклініцы ягоныя шэсцьдзесят восем гадоў не палічыла дрымучай старасцю. “Не знаходжу нічога сур’ёзнага. Павінны

разумець, узрост. Кожны другі мужчына пасля пяцідзесяці жыве з вашым дыягназам”...

Дзядзька Рыгор і сам столькі часу заспакойваў сябе: нічога не зробіш, не за гарамі восьмы дзясятак. А гэта ж доктар гаворыць, спецыяліст, няхай сабе і малады. Як тут не паверыш, калі верыць хочацца, калі чуеш тое, што хацеў пачуць.

З тым і пайшоў чалавек жыць далей. Без аналізаў, без належнай дыягностыкі.

Але хваробу не падманеш. Гады праз два прыціснула так, што не стрываў, паехаў на абследаванне ў Пінск, да малодшага брата. Тут і высветлілася ўся горкая праўда... Апраменьванне, поўны курс хіміятэрапіі, нарэшце, дома, пад наглядам спецыялістаў з раённай паліклінікі, што “адпавядае ўсім еўрапейскім стандартам”.

За некалькі месяцаў да зыходу на пытанне пра здароўе мой хросны бацька адказаў з болем у голасе:

– Апошнім часам пачало балець сэрца. Далі накіраванне на УГД. Абяцалі, што чарга дойдзе праз месяц, а яна ўвесь час адсоўваецца. Пэўна, сваіх прапускаюць... А яшчэ ж, сынок, не ўсё добра *по основной болезни*...

Так і жыву з ягонай крыўдай у памяці.

## РАЗВІТАННЕ

Збег трагічных абставін, няшчасны выпадак... Як часта выпрабоўваюць яны на чалавечнасць, ставячы тых, хто па гэты бок незваротнасці, перад неабходнасцю за адным бяседным сталом шукаць месца Смутку і Радасці – двум палавінам аднаго непарушнага цэлага, якое мы называем жыццём...

Статны, добра выхаваны, адукаваны хлопец ажаніўся са сваёй прыгожай аднакурсніцай. Вяселле павінна было адбыцца яшчэ год таму, ужо і рыхтавацца пачалі. Але нечаканая бяда парушыла ўсе планы – загінула ў аўтамабільнай катастрофе старэйшая з дзвюх сясцёр жаніха. Гэтая трагедыя адабрала здароўе ў маці. Абвастрыліся старыя хваробы. Няшчасная – марнела дзень пры дні, а пад канец года жалобы дарэшты выплакала вочы – страціла зрок. Калі ўжо і гасцей склікалі – чалавек за сто – згадзілася легчы ў рэанімацыйнае аддзяленне. Баялася не датрываць, не хацела, каб праз яе адкладвалі вяселле... яшчэ на год.

Маці пад рукі прытрымлівалі аўдавелы зяць і сынаў сябар. Следам стаяла малодшая дачка з дзяўчынкамі гадоў дзесяці-

адзінаццаці – сіротамі, дзецьмі нябожчыцы-старэйшай. Поруч з ёй – муж і сын-падлетак у шырачэзных (як у Дэцэла) джынсах, у жалезных ланцугах ад пояса і да калень. Разам з дзецьмі і ўнукамі трымаўся вясельны бацька – заклапочаны, цвярозы. Перад тым яго вельмі прасілі ўстрымацца ад выпіўкі. Здолеў.

Маці знайшла ў сабе сілы сустрэць маладых з ЗАГСа, у поўнай цішыні, часта спыняючыся, агучыць мацярынскі запавет. Словы, вельмі звычайныя ў іншых падобных сітуацыях, цяпер былі як святое прычасце, адкрывалі свой сакральны сэнс, злучаючыся ў фразы, ад якіх холадам працінала цела. А яшчэ гэтае адчуванне ішло ад таго – хто ведаў, іншыя здагадваліся, – што маці развітваецца. Здавалася, пасінелымі вуснамі жанчыны ў светлай празрыстай хустцы гаварыла Вечнасць і, узіраючыся ў невідучыя вочы маці, сын і нявестка, якая сама пад сэрцам насіла новае жыццё, даюць ёй, Вечнасці, клятву ўзаемнай вернасці…

Маці пасядзела за сталом і выйшла зусім непрыкметна, калі запрошаныя на вяселле загаманілі, зашумелі, зазвінелі чаркамі…

## ЧАСОВАЕ І ВЕЧНАЕ

Дзіця вёскі, іншы раз думаю, а што калі б вызваліць зямлю ад кубічных метраў бетону, каменю і мармуру. Яна, што сотні і тысячы гадоў была падобна чалавеку з завязанымі вачыма, ці абудзілася б, ці вярнулася б да жыцця?.. Што б вырасла на месцы касцёлаў, цэркваў і сінагог? А на месцы пірамід, палацаў тыранаў, турэмных муроў. Зарунела б жыта, ці адпомсціла б карміцелька блёкатам і дзікімі каноплямі…

Пытанні, на якія ў кожным выпадку абавязкова, няхай праз доўгія дзясяткі і сотні гадоў, будзе дадзены адказ.

Дарэчы, таму-сяму мы становімся сведкамі і пры жыцці.

## ШТО І ПА КОЛЬКІ

Жанчыне крыху за шэсцьдзесят. Адзінокая, не зусім здаровая, але яшчэ трымаецца на працы. Адбіла, адсудзіла ў малодшай сястры – у яе дзяцей і ўнукаў – не такі і завідны дачны дамок. Самой працаваць на зямлі цяжка, таму выручаюць іншым разам маладзейшыя каляжанкі ці, зрэдку, дзеці або ўнукі дальніх родзічаў. Як і цяпер. Час ад часу далятае да слыху: “Віталька, сынок!”, “Сяргейка, сынок!” І так нязвыкла чуць з яе вуснаў гэтае “незаслужанае” за жаночы век слова! З такою невыказнаю тугою яно

гучыць, што і самому робіцца вусцішна! Як многа, мне здаецца, жанчына аддала б, каб прамовіць яго з поўным правам… І гэтую дачу, і гэтую машыну, у якую і ўціснуцца ўжо цяжка.

А можа, толькі здаецца так…

# ~~НЕ ТОЛЬКІ ЖАРТАМ~~

## ПАЛЮБОЎНІЦЫ

“А я пра баб скажу праўду, як адной нагой у магіле буду, – скажу, скочу ў труну, вечкам прыкрыюся – дастань мяне тады”, – прыйшло на памяць леў-талстоўскае.

... Віно ў жанчын закончылася, пляшка, згодна абраду, заняла месца пад адкідным столікам у купэ і размова перакінулася на мужчын. Сяброўкі не перамывалі костачкі сваім “недацёпам”-мужам, не скардзіліся, не наракалі на жыццё. Усё ў іх было добра, нават выдатна.

– Уначы мне мужа хапае, – прызналася, зачырванелася маладзейшая, зграбненькая, з пальцамі піяністкі пасажырка. – Але ж уявіце сабе: рэстаран, дарагая машына, кветкі, прызнанні ў каханні, ад якіх галава кружыцца... А інакш які сэнс жыць!

– Абы што, – катэгарычна не згадзілася суседка – з моцнымі каленямі, выразнымі формамі жанчына гадоў мо сарака. – Які рэстаран, якія гулянкі?! Асобная кватэра. Інтым на самым высокім узроўні. І каб як у вір галавой, да самазабыцця. У – у – у – х! – сцепанулася, пацерла далоні.

– А па мне, – ленавата адарвалася ад сваіх думак трэцяя сяброўка, круглаплечая і пышнагрудая, – найлепшыя палюбоўнікі – прапаршчыкі, асабліва камандзіровачныя. І размовамі вучонымі не даймаюць, і грошай дадуць, і званкамі не дакучаюць пасля. Перакуліліся, памілаваліся – і нічым адно другому не абавязаны. Ніякай марокі. Аніякай, кажу, марокі.

Ах, праўду казаў Вялікі старац.

## “ НАЛІВАЙ!”

Чарга ля машыны, дзе “з калёс” прадаюць танную каўбасу. Аднекуль з’яўляецца прыстойна апрануты, пад гальштукам (у трыццаціградусную спёку) хлопец з баянам, следам – яшчэ чалавекі чатыры. Сталі ў адну лінію, плячо да пляча, заспявалі. Мелодыя знаёмая, але словы не тыя. Баяніст, як толькі заціх апошні акорд, пачаў узнёслую прамову, якую закончыў запрашэннем у Палац культуры на сустрэчу з нейкім замежным аракулам. Далей зноў на

дзве хвіліны песня – і прамова. У самы яе пік паблажлівы голас з чаргі:

– Ну хопіць ужо, налівай!

Нягучны смех, стомленыя ў чарзе людзі нядружна, але падтрымліваюць недарэчны жарт.

“Хаджэнне ў народ” чарговы раз не займела поспеху.

## ЦІ ЗРОБЯЦЬ?..

Да трыццаці – сам жэнішся, да сарака – ажэняць людзі. А пасля сарака і чэрці не ажэняць... Сцяпан Гоман якраз на зыходзе той мяжы, калі людзі яшчэ жэняць. Апошні халасцяк у вёсцы. Нявеста яго ж узросту. Не прыгажуня, але прыемная з выгляду, як у нас кажуць, міжлюдная. Дагледзела і пахавала бацькоў, працавала на гаспадарцы, так і не заўважыла, як дзявочыя гады выйшлі. Маладая саромеецца вэлюма і вясельнага ўбору, нібы прабачэння просіць у мужавай радні за свой узрост. Тыя, наадварот, задаволеныя: ачалавечыўся хлопец, колькі можна халасцяком цягацца!

І толькі скептыкі-бабулі на лаўцы ў пастаянным клопаце: ”А ці зробяць маладыя каго?.. Ой, ці зробяць?..”

Дасць Бог, зробяць.

## ФАЛЬШ

– Жаніцеся, дзядзьку, а то і зусім усохнеце ад сваёй заціркі, – пераконвалі-ўгаворвалі сваякі. А таму “жаніху” да пенсіі – як праз разору пераступіць. Адна кабета прыбілася – забракаваў: браў маладую, а ў яе праз які месяц пачалі валасы сівыя адрастаць.

– Навошта мне старая, калі я сам стары, – абурыўся дзядзька Андрэй.

Не атрымалася сямейнае шчасце і з другой маладзіцай: бегала бы козачка, а як прыгледзеўся ўважлівей – левую нагу цягне.

І трэцюю прагнаў праз месяц-другі:

– Як з такою жыць! – апраўдваўся перад сваякамі, – калі яна нават ногі нанач не мые.

## НА ЗЛОДЗЕЯЎ

У прыгарадным цягніку пажылая жанчына супакойвае суседку, трохі маладзейшую, але таксама спрацаваную, прыгнечаную безграшоўем:

– А што зробіш, мілая. Свет такі вакол. Мы ўсе добрую палову жыцця працуем на злодзеяў.

Што праўда – тое не грэх. Добра, калі толькі палову жыцця.

## "НЕ ПРЫДУРВАЙСЯ!.."

Сярэдніх гадоў маладзіца добра "чарніліць". Памяняла не адну працу, цяпер прыбірае ў двары. І калі паспявае толькі?.. З раніцы – апахмелка тут жа, на лаўцы ў пад'ездзе, а к абеду, калі макулатура і бутэлькі здадзены, – з калегамі-мужчынамі ў суседніх дварах дабірае норму.

Прыехала з вёскі маці, каб праведаць дачку. Тая, цвярозая з раніцы, выйшла да цягніка. Не ўтрывала ўжо на вакзале...

Смех і слёзы. Дачка ледзь не з песняй выпісвае зігзагі ад аднаго боку шырокага тратуара да другога. Ззаду, за некалькі крокаў, прыгорбленая старая ў плюшавай жакетцы.

Паблажліва пасміхаюцца сустрэчныя. Старая нягучна, нібы на малое дзіця:

– Дачушка, ідзі прыгожа, не прыдурвайся.

І тут ратуе, захінае бядотнае дзіця: "Зусім не п'яная яна, людзі.. Не падумайце дрэннага..." А ў словах гаркота і боль.

Доля мацярынская...

## ХОЦЬ БЫ ШТО...

Гараджане ў вясковай краме. (Рыбгас дазволіў за невялікую плату лавіць рыбу ў адной з сажалак).

Расказвае прадаўшчыца сельмага:

– То ж срам які! Чалавек пяць зайшло. І ўсе голыя. Людзі добрыя, не ведаю, куды вочы дзець! І жанчына з імі была, дык на самы прылавак грудзі паклала. Што ж гэта робіцца!.. Мяне то ў холад, то ў жар кідае. Бяру грошы і пад ногі сабе гляджу. А ім хоць бы што.

## ТАКУЮ КРАІНУ РАЗВАЛІЛІ!..

“І кралі, і было ўсё. А цяпер... – абураецца сусед-будаўнік. – Ладуем, памятаю, агароджу ля самага выканкама. Бачу, падыходзіць інтэлігентнага выгляду цётка. Ну, думаю, не ніжэй як дэпутат. А яна ласкава так: “Хлопчыкі, мне б дзясяткаў колькі дошак на штыкетнік”. – “У нас не дошкі, у нас секцыі, – адказваю з годнасцю. – Па дзяржаўнай цане трыццаць рублёў за адну, мы аддаем за дзесяць. Вам колькі секцый?”

А цяпер што?.. У гаспадара працую. Халтуры – аніякай. Іржавы цвік, і той у кішэню не пакладзеш. Такую краіну развалілі!..”

## КАЛІ ЁН ЁСЦЬ...

Партыйны работнік, у мінулым ваяўнічы атэіст, і пасля другога інсульту ўсё яшчэ намагаецца трымацца аднойчы выбранага курсу. Але не той час, не той узрост. На пахаванні суседкі-равесніцы зусім ужо па-старэчаму:

– Няхай Бог супакоіць яе душу.

І як бы апомніўшыся, схамянуўшыся, трохі нават катэгарычна:

– Калі ён ёсць.

## УЗВОД ГАРНІСТАЎ

“Бачкавое” піва закончылася. І што цяпер?.. Ускінуўшы бутэлькі (левая рука на поясе, нага адстаўлена, галава закінута глыбока назад), мужчыны п’юць піва. Паглядзець здалёк – узвод гарністаў, паўкругам, спінамі да кіёска. Вельмі ўжо напамінае.

## ПАРАЎНАННЕ

З чым можна параўнаць модныя сучасныя прычоскі некаторых эстрадных куміраў? Асабіста мне яны напамінаюць неаселыя копы балотнага сена – асака з чаротам, ракіта ды вербалоз. Кожная капá спехам, похапкам, віламі з пракосу скідана, абы-як прывершана.

І не прыгладзіш такую прычоску-капу, і не ўскудлаціш.

## ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ

Мужчыны ва ўзросце любяць паўспамінаць, як яно было. За піўным столікам сабралася трое, па размове – былыя вяскоўцы.

– Цяпер сход – што той спектакль. Толку ніякага, але падрамаць не дадуць. Ты, галоўнае, сядзі смірна, не высоўвайся, не лезь куды не просяць. Тады і з кантрактам клопату не мецьмеш, і на пенсію з пашанай, – задаў тэму мужчына ў паношаным пінжаку.

– Яно і раней было няблага, – уключыўся ў размову сусед. – На ўваходзе ў клуб, памятаю, касірка па два рублі выдае, толькі распішашся. І масавасць на сходзе, і магазіну план... Сядзіш, маракуеш, да якой кампаніі прыбіцца.

– А я так думаю: добраму чалавечку добра і ў запечку, – разважліва падвёў вынік трэці суразмоўца, адкаркоўваючы пляшку. – Ну, за добрых людзей.

## АПЕТЫТ ДОБРЫ

Розныя яны, цяперашнія вучні: здольныя і не вельмі, старанныя і лайдакаватыя. У асобных, трэба сказаць, матухна-лянота ўзведзена ў квадрат. І паводзіны ў лайдачыны амаль што ўзорныя: прыкрасцяў крадком не чыніць, на калідоры пяць разоў на дзень павітаецца, што-небудзь зняць, павесіць, разгрузіць ці пераставіць – калі ласка. А што да вучобы – тут ужо выбачайце...

Да запаветнага дзявятага класа Максіма "цягнулі" ўсім педагагічным калектывам. Тут і экзамены. Дырэктар, добрай душы чалавек, папрасіў у экзаменатараў... ну, які ўжо тут грэх – паставіць хлопцу станоўчую адзнаку. А хто ж супраць?.. Атрымае малады чалавек спецыяльнасць, пойдзе працаваць на вытворчасць. А ў школе – які з яго толк.

Настаўніца мовы і літаратуры, і сама маці, падсунула бедалагу гатовы тэкст пераказу.

Піша Максімка, пачырванеў як той рак. Лоб выцірае ды слёзы раз-пораз па твары размазвае. Ажно сама расхвалявалася Марыя Антонаўна: перажывае дзіця, сорамна стала... Шкада зрабілася ёй хлопца – падышла, прачулена і ціха, каб ніхто больш не чуў, запытала:

– Чаго, Максімка, плачаш? Ці ўсё ў парадку, ці здаровы?

А той:

– Рука забалела.

Не прывык, значыць, за адзін раз пісаць столькі.

Гэткім жа ці падобным чынам справіўся выпускнік з іншымі школьнымі экзаменамі і на радасць усім быў залічаны ў прафесійнае вучылішча.

З восені Марыі Антонаўне зноў даручылі весці выпускны клас. А праз месяц-другі ў вучылішчы праводзіўся традыцыйны Дзень адчыненых дзвярэй. Пасля экскурсіі па майстэрнях і машынным двары настаўніца асцярожна так, з прыхаванай надзеяй пра былога выхаванца прапытвае: як ён, мо хоць тут за розум узяўся? Тэхніка ж, павінна быць хлопцу цікава.

Майстар не спяшаецца адказваць, доўга падбірае патрэбныя словы, і нарэшце:

– Апетыт у яго добры... А вось ці навучым на трактары працаваць?.. Будзем старацца, прыкладзем усе намаганні.

## “НЯЎЖО ТАК БАЛЕЛА?..”

Іван Сцяпанавіч, нядаўні настаўнік, усяго другі год як пенсіянер, “дачакаўся” – так лягчэй адважыцца – чарговага прыступу зубнога болю і звярнуўся ў прыватную паліклініку, міма дзвярэй якой з прытоенай трывогай і вераю праходзіў не адзін дзясятак разоў. Трэба сказаць, што у апошнія гады стаматалагічныя праблемы добра-такі яго дапяклі, а грошай на лячэнне заўсёды не хапала. Дзякаваць богу, у апошні год такое-сякое рэпетытарства дапамагло.

Своечасова запісацца на прыём да ўчастковага спецыяліста перашкаджала і іншае: чалавек больш за ўсё баяўся быць абражаным. У “бясплатнай” стаматалогіі – засела ў памяці яшчэ з маладых гадоў – маглі і прыкрыкнуць, і пасароміць за тое, што не можаш патрываць. Цяпер жа – толькі плаці.

Сустрэлі мужчыну ветліва, адносіліся тактоўна, абыходліва. А што грошы?!. Ці ж не сам даўно быў гатовы аддаць апошнюю капейчыну, каб толькі па-людску, каб толькі не хаваць ад вучняў і калег свой бяззубы сорам.

За які месяц пралячыў Іван Сцяпанавіч разцы і карэнныя, згадзіўся на пратэзаванне. Прызапашаных грошай хапала, хоць і ўпрытык, на “масты” і каронкі з дарагога сучаснага матэрыялу.

Ажно запаважаў сябе былы педагог, калі пасля ўсіх працэдур глянуў у люстэрка. Усміхнуўся, разгарнуў плечы: хоць ты зноў у клас вяртайся! Дорага, вядома, тысяча з гакам даляраў, але каштуе таго.

Жонкі ў Сцяпанавіча даўно не было, а нявестцы – жывуць разам – аніякай радасці. Грошы не свае – а ўсё ж шкада. Патроху сына пілуе: і крэдыт за машыну не выплачаны, і таго няма, і гэтага

бракуе. А бацька толькі пра сябе дбае. Касцюм нядаўна купіў, хоць стары – яшчэ і не такія ў яго гады носяць, майкі ды красоўкі – лічы што новыя, куды іх падзець? – як аддалі, так і ляжаць.

А тут яшчэ і маці нявестчына, сама даўно бяззубая, у выцвілым халаце:

– Такія грошы!.. Ой, такія грошы!.. Няўжо, сватку, так балела?

## "КУПІЦЕ "СВА́ЯК"

Для зручнасці і каб на вачах, батарэі рознакаліберных бутэлек з гарэлкай стаялі "на ка́се". Яшчэ і як своеасаблівае выпрабаванне для таго-сяго: і не збіраўся чалавек купляць, а яно само пад рукі лезе.

Пакупнік, па-вясковаму апрануты сталага веку мужчына, пытаецца пра вядомую марку мінскага завода.

– Мяне, – тлумачыць касірцы, – пачаставалі нядаўна ў раёне. На "хлебную" падобна, толькі, я сказаў бы, яшчэ мякчэй. І прысмак нейкі асаблівы.

Касір, маладая, нічым бог не пакрыўдзіў жанчына прафесійна-ветліва:

– Была. Толькі што разабралі. А вы вазьміце гарэлку "Сва́як", гэта прыкладна адно і тое ж.

– А яна ў вас на сваях настоена, ці што, – абурыўся чалавек і, не надта падбіраючы словы, даў, як кажуць філолагі, ацэнку моўнай кампетэнцыі касіра. Пасля больш стрымана растлумачыў, што і да чаго.

Не падзякавала. Добра хоць прамаўчала.

А нядаўна (якраз глядзеў рэпартаж пра адкрыццё новага супермаркета) на памяць зноў прыйшоў "сва́як". Мала таго, ноччу прыдалося, што я – гэта ж трэба! – пазваніў на "прамую лінію" і атрымаў хуткі адказ. Паведамлялася, што спецыялістам па продажы загадана развучыць неабходныя для працы словы па-беларуску, а вытворцам моцных напояў рэкамендавана даваць гандлёвым маркам аднаскладовыя назвы: "Кум", "Зяць", "Цесць", "Сват"…

А што?.. Глядзіш, і "сва́які" перавядуцца.

## " ДЗЕ ТВАЯ ПАПКА?.."

Стаю на аўтобусным прыпынку. На гэты раз не на працу, зусім іншы клопат.

– Ма-а-а-а-ць тваю!.. – данеслася аднекуль здалёку. Пакруціў галавой, усё яшчэ не здагадваючыся, што брыдкаслоўная тырада накіравана ў мой бок. Зразумеў гэта тады, як па-за машынамі, праз чатыры шырокія паласы дарогі разгледзеў нашага дворніка, які энергічна жэстыкуляваў рукамі.

– М-а-а-а-ць тваю!.. – заўважыўшы, што на яго звярнуў увагу хто трэба, – яшчэ з большай сілай крычаў страж двара. – Дзе твая папка? Чаму без гальштука?

"Як бы і не правініўся, – пачаў я аналізаваць сітуацыю. – Акуркаў пад ногі не шпурляў, кветнікі не таптаў, вітаўся першым (Ягоравіч на выгляд старэйшы). Ну а што ў "падвальчыку" не быў ні другім і ні трэцім, то кожнаму, як кажуць, сваё. Дворнік у нас, праўду сказаць, чалавек на сваім месцы: інструмент дагледжаны, сцежкі-дарожкі падмецены, трава скошана. Сам у прыстойнай уніформе, доўгія, да локцяў, рукавіцы мяняе ледзь не штодня.

Бясспрэчна, каб зразумець іншага, трэба ўлезці ў яго шкуру. Глядзі ты, – убачыў я сябе вачыма чалавека праз вуліцу, – і без папкі, і ў джынсах. Нармальным прыкідваецца. Усё гора на свеце ад такіх. Што б вы, блыхастая інтэлігенцыя, без нас рабілі? У смецці сядзелі б па вушы…

Смешным было б крычаць нешта ў адказ ці ладзіць разборкі. Я сеў у першы, што падышоў, аўтобус. На супрацьлеглым баку вуліцы, няўпэўнена трымаючыся на нагах, сціснутым кулаком рассякаў паветра над галавой наш дворнік. Не самы дрэнны, як ужо гаварылася. Нават за прэмію яму мы нядаўна прагаласавалі. Аднагалосна.

## ТРУСІКІ І МАЙКІ

Сімпатычная, яснавокая, усмешлівая дзяўчына гадоў каля трыццаці "на ка́се" ў прадуктовым магазіне. Заўсёды ў добрым настроі, абыходлівая з пакупнікамі. З твару і постаццю яна вельмі напамінала мне цяперашнюю расійскую спявачку Наташу Каралёву. Так і называў дзяўчыну ў думках, не маючы ніколі намеру сказаць ёй пра гэта. А вось разлічыцца за пакупкі менавіта на яе ка́се заўсёды цягнула нейкая невядомая сіла. І нічога, што чарга там, як здавалася, была крыху даўжэй. І за ўвесь час, як прыйшла дзяўчына ў наш магазін – а гэта гадоў каля дзесяці, – ніколі я не бачыў яе раздражнёнай, нястрыманай ці нават у дрэнным настроі.

І на гэты раз усё было як звычайна. Я стаяў у чарзе ў "сваю" ка́су. Дзяўчына завіхалася, па-другому і не скажаш, абслугоўваючы

нейкага разгубленага, прастакаватага пакупніка, што стаяў спераду: перакладвала прадукты, перапытвала, раіла, дзякавала. Нарэшце і я падсунуў бліжэй свае прадукты. Падняла вочы, глядзіць, усміхаецца: "Добры дзень!" – "Добры дзень!" – адказваю бадзёра, стараючыся не выдаць прыемнага здзіўлення, бо раней такога не здаралася. "А ўрэшце, чаму б і не павітацца з маладжавым дзядзькам, – набіваю сабе цану. – У новым плашчы, пад гальштукам... А можа, у чалавека нейкае свята на душы і вельмі хочацца падзяліцца ім з малазнаёмымі людзьмі.

Але далей – болей.

– Маечку вам прапанаваць? – запытала дзяўчына, маючы на ўвазе цэлафанавы пакет складаць купленае.

– Буду ўдзячны?

І ўжо зусім нечакана:

– Маечкі, маечкі... Трусікі і трусікі... – праспявала-прашчабятала, глядзіць гарэзліва, можа нават юрліва.

Нічога не разумею, але адчуваю, што становіцца горача, пачынаю чырванець. Вось табе і маеш!..

– Ну, а як вашы малыя? – працягвала дзяўчына ў тым жа настроі.

"Памылілася," – цяпер ужо можна было здагадацца. Нейкае чарцянё настойліва штурхала пад рэбры, але ў мяне ўсё ж хапіла розуму пераадолець спакусу выконваць і надалей нечаканую ролю.

– Яны не такія ўжо і малыя, – падбіраючы словы, адказаў пасля няёмкай паўзы. – Старэйшай – хутка трыццаць, сыну – дваццаць пяць...

Цяпер прыйшла чарга чырванець дзяўчыне.

– Вы так падобны да аднаго чалавека...

– Магчыма, і, паверце, вельмі яму зайздрошчу.

– Дзяўчына заірдзелася, засаромелася настолькі, што мне стала нават шкада яе. Прыгажуню можна было зразумець: зусім чужы чалавек выпадкова прыадчыніў *іхнюю* – толькі дваіх – тайну.

А што ж сам вымушаны злодзей, які ненарокам пакарыстаўся жарынкай адрасаванай іншаму чалавеку пяшчоты?.. Да канца дня адчуваў сябе імяніннікам. І можаце здагадацца, чаму.

## ЯК РОЎНЫЯ

Яна выкладае ў каледжы, ён – рабочы на заводзе. Пад магазінам не стаіць, але вечарам, усялякае бывае, іншым разам

вяртаецца з працы “пад мухай”. Зычны жаночы голас, зрываючыся на крык, з непрацяглымі перапынкамі гучыць у мяне за сцяною гадзіну і другую. Час ад часу ў гэты істэрычны маналог укліньваецца мужчынскі, з ноткамі апраўдання і пакаяння бас…

Так было. Але апошнім часам – і чым далей, тым болей – лаўлю сябе на думцы, што сварацца дзве жанчыны: у яго аднекуль узяліся высокія пісклявыя ноткі ў голасе, тактыку абароны замяніла наступленне.

Смешна і сумна.

## ВУСЕНІ АБЛЯНІЛІСЯ

Апошнія дзве сотні метраў перад чыгуначнай платформай ля дачных таварыстваў сцежка ідзе праз сасоннік. Нельга без шкадавання глядзець на людзей – у асноўным пажылых, пераважна жанчын, – што купкамі і па-адной затрымліваюцца тут перад паездкай, каб перавесці дыханне, пастаяць у цяньку, прыпёршыся да камля старой сасны.

Вагоны звычайна маўклівыя. Але, як кажуць, не бывае правіл без выключэнняў…

Мужчына ранняга пенсійнага ўзросту дапамог маладжавай агародніцы падняць у вагон ладны кошык з клубніцамі. Тая, калі прыселі, не звяртаючы ўвагі на пярэчанні выпадковага спадарожніка, шчодра сыпанула ягады ў ягоны пакет.

– Хопіць. Хопіць! – збянтэжыўся чалавек і напаўжартам, напалову сур’ёзна: – Што я, даражэнькая, жонцы дома скажу.

– А тое і скажаце, што прыгожая маладзіца пачаставала.

– А за што? – уключыўся ў гульню мужчына. – Не паверыць жа, што адно толькі кошык паднёс.

– Няхай параўнуе, мацней кахаць будзе, – заўсміхалася агародніца і да тых, хто бліжэй:

– Надакучыла, ведаеце, змагацца з ураджаем. Тыя гады то не ўзыдзе, то расада прападзе. Саджу заўсёды з запасам. А ў гэтым усё зарадзіла. Вусені сталі нейкія лянівыя, ці што…

Не ведаю, мо і выпадкова, але і адзін і другі раз сустракаў іх разам у горадзе і на чыгуначным прыпынку. Дапамагаў дзядзька падносіць суседцы па вагоне даспелыя вішні, кошык з антонаўкамі… За адну ручку з абодвух бакоў трымаліся. Пэўна, не толькі вусені, але і пладажэркі ў руплівай і вабнай маладзіцы канчаткова абляніліся.

## ГАВАРКІ БУДЗІЛЬНІК

Добры настрой на ўсю першую палову дня задаў звычайны старэнькі будзільнік. Выдатна адпачывалася, а пад раніцу прыдалося, што слухаю нейкае цікавае паведамленне з трыбуны, а дакладчыка “заклініла” на слове “лайдак”. Вымаўляе яго па складах , а далей – ні з месца.

Паступова адыходжу ад сну, расплюшчваю вочы і разумею, што гэта будзільнік ля галавы – чамусьці асабліва зычна ў ранішняй цішы: цік-так, цік-так... Маўляў, падымайся, лайдак, на працу спознішся. Другім разам завесці спружыну не забудзь: цік-так, цік-так...

**ЗМЕСТ**

У аперацыйным блоку холадна (аповесць)

**АПАВЯДАННІ**

Жанчыны
Нара
Была ў мяне шапка
Неяк яно будзе

**МІНІЯЦЮРЫ**

***ВАЧАМІ НАСТАЎНІКА***

Гультай
Заступніца.
Пра Бабу-Ягу
Настаўнік
За што?
Антракт і “Кантракт”
Чытачы
Дакумент
Выхаваўчы момант
“Разрешите взять консервы”
Усяго толькі гульня
Сустрэча
Хто чый
Пра Ваню і Таню

***ЖЫЦЦЁ, ЯГО ВЯЛІКАСЦЬ***

Як прыходзіць старасць
Пакінутыя хаты
Аднойчы ў спёку
Умець патрапіць
Лічбы на сэрцы
Не як нармальны
Мастацтва
Працягу не будзе
Перажыткі
Як грыбоў
Ідылія
П’яны гармонік
Калоды і сякера

Высокая столь
“М-ы-ы-ам”
“…По основной болезни»
Развітанне
Што і па колькі

***НЕ ТОЛЬКІ ЖАРТАМ***

Палюбоўніцы
“Налівай!”
Ці зробяць?
Фальш
На злодзеяў
“Не прыдурвайся!”
Хоць бы што
Такую краіну разваліі!
“Калі ён ёсць”
Два параўнанні
Узвод гарністаў
Параўнанне
Добрыя людзі
Апетыт добры
“Няўжо так балела?..”
“Купіце “Сва́як”
“Дзе твая папка?” .
Трусікі і майкі
Як роўныя
Вусені абляніліся
Гаваркі будзільнік

## *МІКОЛА СЯНКЕВІЧ*

*Нарадзіўся 20.02.1957 г. у вёсцы Асіпавічы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся ў прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 43 горада Пінска, служыў у войску. Пасля завяршэння вучобы ў Брэсцкім педагагічным інстытуце (1982) на працягу трынаццаці гадоў працаваў настаўнікам пачатковых класаў у школах абласнога цэнтра. З 1995 г. – асістэнт, старшы выкладчык кафедры беларускай і рускай моў з методыкай выкладання Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С.Пушкіна. Аўтар навуковай манаграфіі, вучэбнага дапаможніка і шэрагу артыкулаў па праблемах навучання малодшых школьнікаў.*
*Выдаў кнігі мастацкай прозы «Усё як было» (1997), «Хутар Паянтрый» (2002), а таксама зборнік вершаў «Мае пракосы» (2007).*

Лаўрэат прэміі “Берасцейская зорка – 1997” у намінацыі “Літаратура”